
Рэкруты ➔3

# Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714


З Новым 2019 Годам!

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 02 (3270) Год LXIV | Беласток, 13 студзеня 2019 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


**На 90-ым годзе жыцця 2 студзеня 2019 года ў Варшаве адыйшоў з зямнога жыцця Спадар Юры Туронак. Гісторыя і легенда беларускай справы. Многія пакалені беларусаў у Польшчы ўзрасталі і выбудоўваліся ў сваёй беларускасці разам з Юрым Туронкам. Беларусы ва ўсім свеце з няцярплівасцю чакалі і чыталі ягоныя гістарычныя даследванні. А ўсё хацелася Яму бачыць і разглядаць з беларускага пункту гледжання. І за гэта нашае, бязмежнае — дзякуй. Прапануем Вашай увазе інтэрв'ю Міколы Ваўранюка са спадаром Юрым Туронкам надрукаваным у «Беларускім настаўніку» н-р 1. ад 2017 года.**

Аўтабіяграфія **Юрыя Туронка** „За кардонам Бацькаўшчыны" магла б называцца „З Бацькаўшчынай у сэрцы", бо выдатны даследчык навейшай беларускай гісторыі ў сваім жыцці заўсёды кіраваўся азімутам: Беларусь. Гэта не раз, як сам піша, выклікала здзіўленне беларускіх калег: „Як, жывучы ўсё жыццё ў літоўскім і польскім асяроддзі, я дайшоў да беларускасці?". Адказ на гэтае пытанне надзвычай просты і знаходзім яго ўжо ва ўступе кнігі: „Я не меў патрэбы даходзіць да беларускай нацыянальнай свядомасці. Яна была натуральным вынікам сямейнага патрыятычнага ўзгадавання, паводле якога маёй Бацькаўшчынай мелася быць Беларусь, а не тое ці іншае месца пражывання"[1].

— Мама вучыла чытаць і пісаць па-беларуску лацінкай і кірыліцай. Памятаю таксама, як малодшы брат бацькі, Віцька, які вучыўся ў Віленскай беларускай гімназіі, прыязджаў да нас на святы. Мы строілі ёлку, а ён дэкламаваў Купалу:

> Вучыся нябожа, вучэнне паможа
> Змагацца з нядоляй, з няволяй...
> Што мучыць сягоння,
> што думкі трывожа, —
> Збяжыць і ня прыйдзе ніколі.

— А Віцька потым стаў палякам, — уключаецца ў размову жонка спадара Юрыя, Зіна, якая тым часам паставіла на стол гарбату і печыва сваёй работы, легендарны смак якога пазнаў я яшчэ ў студэнцкія гады. Размаўляем у таксама добра мне вядомай з маладосці кватэры спадарства Туронкаў — на дванаццатым паверсе блока па вуліцы Тамка ў Варшаве.

— Так, пайшоў у афіцэрскую школу, якую скончыў у 1939 годзе. Як прыйшлі саветы, хаваўся ад іх недзе ў Літве. Потым быў у Арміі Краёвай і ваяваў на Ашмяншчыне з літоўцамі, а пасля вайны ўцёк у Польшчу.

**— Яшчэ адзін складаны лёс беларускай інтэлігенцкай сям'і. У кніжцы „Памяці Браніслава Туронка" пішаце, што з-за гэтага Ваш бацька спыніў адносіны са сваім братам[2]. На гэтай самай старонцы можам прачытаць таксама, як бацька выбіў Вам папругай захапленне польскай моваю. Мала адукацыйны прыклад у сённяшні час, але ў Вашым выпадку спрацаваў. Вы ніколі ў жыцці, незалежна ад абставін, не мелі ахвоты адракацца ад беларускасці.**

— Такое я атрымаў выхаванне. Мае бацькі паходзілі з двух ускраін Беларусі: мама Марыя з-пад Беластока, а тата Браніслаў — з Дзісеншчыны. У хаце гаварылі на літаратурнай мове і так вучылі нас, дзяцей. Хаця вакол нас — у мястэчку Дукшты, на поўнач ад Вільні — было польска-яўрэйска-літоўскае асяроддзе. Я ні гадзіны не вучыўся ў беларускай школе. Спачатку — у 1936 годзе — пайшоў у польскую, якая ў 1939 годзе стала літоўскай, год пазней савецкай (да сёння памятаю песню: С неба полуденного жара не подступи, Конная Буденного раскинулась в степи). У час вайны я вучыўся ў літоўскай гімназіі ў Вільні, а пасля рэпатрыяцыі ў 1945 годзе ў розных школах Польшчы. Калі мы пераехалі, я вельмі слаба ведаў польскую мову.

**— Што Вас прымусіла пакінуць родны дом у Дукштах?**

— Маё шчаслівае дзяцінства абарвалася ў верасні 1938 года, калі раптоўна памёр бацька. Ён прастудзіўся, плывучы да хворага на маторнай лодцы праз Дзісенскае возера. Да таго часу мы ўжо абжыліся ў Дукштах, мелі вялікі дом, якім займалася мама, бацька няблага зарабляў як лекар, я хадзіў у школу... Калі памёр бацька, мне было дзевяць гадоў, маім братам: Андрэю сем, Міхасю тры, а маме трыццаць тры. Мама пасля смерці бацькі хацела вяртацца ў сваю родную старонку, але вайна, чарговыя змены ўлады, новыя граніцы — не да таго было. Але калі ў час ваенных дзеянняў летам 1944 года ад агню кацюшаў згарэў наш дом, у Дукштах не было за што трымацца.

**— Але ж і на Беласточчыне, як пішаце ў кнізе „За кардонам Бацькаўшчыны" ніхто Вас не чакаў: „...дзядзькі і цёткі мелі свае сем'і і невялікія хаткі, а атрымаць кватэру ў разбураным Беластоку было немагчыма"[3]. Сям'я раздзялілася, Вы пачалі вучыцца ў ліцэі ў Беластоку.**

— На Варшаўскай вуліцы. Тут і вылезлі мае недахопы ў польскай мове. Настаўнік матэматыкі ўзяў мяне да дошкі і пытае, колькі будзе dwa do potęgi drugiej. А я не ведаю, чаго ён ад мяне хоча. Ён думаў, што я не чую і паўтарае пытанне, а я ж тады яшчэ добра чуў, не тое, што цяпер, — смяецца спадар Юры. — Я прызнаўся, што не разумею, бо прыехаў з Вільні. То можна па-руску, кажа ён. А ў мяне ў школе і рускай мовы не было, кажу. А якая? Літоўская. Ну, літоўскай то я не ведаю, адказвае настаўнік. Да таго мяне ў I Гімназіі ў Вільні вучылі гісторыі крыху па-іншаму. Калі мы загаварылі пра Грунвальдскую бітву, то я з поўным перакананнем сказаў пра перамогу Вітаўта Вялікага над крыжакамі. І дадаў, што Ягайла ў той час сядзеў у палатцы і маліўся. Цэлы клас смяяўся. А я за свой адказ атрымаў двойку.

— Ты не меў дзе прыслухацца да польскай мовы, бо падбеластоцкія вёскі гаварылі па-беларуску, — уключаецца ў размову спадарыня Зіна. — Памятаеш, як мы намнога пазней, да маёй дыпломнай працы запісвалі таго дзядзьку з вёскі тваёй мамы — Рушчанаў каля Харошчы...

— Так, Зіноўку. Ён пра войска нешта расказваў. Я яму потым даў паслухаць той магнітафонны запіс, а ён пытае: гэта што, Мінск гаворыць? Не пазнаў свайго голасу. А гаварыў чысцюткa па-беларуску.

**— Вы неўзабаве пакінулі Беласток.**

— Мама жыла ў Растэнбургу, цяпер Кентшын, каля Ольштына. Паехаў я да яе і стаў вучыцца ў Ольштыне. Там было лягчэй, бо папаў у асяроддзе рэпатрыянтаў, такіх як і я. Адзін з калег нават падараваў мне частку парванай кнігі Язэпа Найдзюка „Беларусь учора і сяння". Яна мне нагадвала, каб не толькі не забываць беларускую мову, а ўвесь час вучыцца, паглыбляць свае веды пра Беларусь. У час вучобы ў сярэдняй і вышэйшай школах не было на гэта многа часу, але пасля — так. Я купляў кнігі, удасканальваў мову, знаёміўся з літаратурай. Як стваралася Беларускае грамадска-культурнае таварыства ў 1956 годзе, то мяне хлопцы, з якімі мы арганізавалі варшаўскі аддзел — Мацей Канапацкі, Віктар Лэпкоўскі, Юрка Бусловіч — называлі грамацеем.

**— Таму Вы былі натуральным кандыдатам на кіраўніка Навуковага гуртка БГКТ.**

— Гэта, аднак, было ўжо пазней, у 1970 годзе.

**— Хаця Вы па адукацыі эканаміст, то ў гуртку засяродзіліся на гісторыі Беларусі. Як самі пішаце ў аўтабіяграфіі: „Грамадскія патрэбы абудзілі ўва мне гісторыка"[4].**

— Я спачатку думаў займацца вывучэннем эканомікі Беларусі, але не знайшоў зразумення ні ў Мінску,

працяг ☞ 8



# СПАДАР
## (1929-2019)

**Юры ТУРОНАК** — гісторык, эканаміст, дзеяч беларускай меншасці ў Польшчы. Нарадзіўся ў 1929 годзе ў Дукштах на Віленшчыне. Сын вядомага заходнебеларускага палітычнага дзеяча, лекара Браніслава Туронка. Скончыў Галоўную школу планавання і статыстыкі ў Варшаве (1952). Працаваў у Польскай палаце замежнага гандлю, у рэдакцыі часопіса «Rynki Zagraniczne». З пачатку 1960-х займаецца вывучэннем гісторыі беларускага нацыянальнага руху, беларуска-польскіх дачыненняў у XX стагоддзі, беларускага школьніцтва ў Польшчы. У 1986 годзе ў Варшаве абараніў доктарскую дысертацыю «Беларусь пад нямецкай акупацыяй». Аўтар кніг: «Беларускае школьніцтва на Беласточчыне» (1976), «Памяці Браніслава Туронка» (1990), «Вацлаў Іваноўскі і адраджэнне Беларусі» (1992), «Беларусь пад нямецкай акупацыяй» (1993), «Беларуская кніга ў Другой Рэчы Паспалітай» (2000), «Беларуская кніга пад нямецкім кантролем» (2002), «Людзі СБМ» (2006). У 2006 годзе ягоныя ранейшыя працы былі перадрукаваныя ў зборніку «Мадэрная гісторыя Беларусі». У 2010 годзе выдаў аўтабіяграфію «За кардонам Бацькаўшчыны».

## СПАЧУВАННІ

**Праграмная рада тыднёвіка «Ніва» выказвае шчырыя спачуванні сям'і Юрыя Туронка з напаткаўшым яе горам смерцю Мужа, Бацькі і Дзядулі. Няхай сны аб Беларусі будуць вечныя разам з Вамі.**



# Жывіць людзей не бульба...

Зайшоў я 1 студзеня, адразу ў першы дзень Новага года, у адзін з гарадзенскіх супермаркетаў. Зайшоў як у музей — так ціха, наведнікаў мала, ля кожнай паліцы можна спыняцца як ля палотнаў карціннай галерэі. І не дзіва — людзі яшчэ адаспацца не паспелі пасля бурлівай навагодняй ночы. Бальшыня ў нас па звыклай завядзёнцы аддаецца ў гэтую навагоднюю ноч Бахусу і абжорству напоўніцу, таму не дзіва, што 1 студзеня народ выпаўзае на вуліцу толькі пад вечар. Да ўсяго многія сустракалі 2019 год як мінімум тры разы. Першы раз паводле ні то беларускага, ні то маскоўскага часу — людзі дагэтуль дыскутуюць пра гэта ў сацыяльных сетках. Другі раз паводле паўночных і паўднёвых суседзяў — па літоўскіх і ўкраінскіх гадзінніках. Ну і нарэшце па польска-еўрапейскім часе. Так што дзівіцца малакалькаснасці людзей зранку на вуліцах і ў маркеце асабліва не выпадала. А тут яшчэ надвор'е выдалася зусім „нялётнае" і незімовае.

На паліцах сучасных супермаркетаў ёсць усё. Можа таму і Новы год успрымаецца не так ярка як у дзяцінстве, ці маладосці. Бо пры Савецкім Саюзе 31 снежня было адметным яшчэ тым, што ў навагодні вечар можна было выпіць і з'есці тое, чаго не было пераважную частку года ні ў крамах, ні на стале грамадзян адной шостай часткі планеты. У СССРы, пра які так любяць настальгаваць крывадушнікі і асобы без глуздоў у галаве, крамы былі амаль пустымі, часам у іх не было нічога акрамя кількі ў тамаце, плаўленых сыркоў ды запалак. Звычайныя маянэз, мандарыны, кансерваваныя зялёны гарошак і шпроты ў алеі былі вялікім дэфіцытам. Іх можа было дастаць-купіць толькі „па блату". Тое ж віно а-ля шампанскае было прадстаўлена толькі адным відам пад назвай „Советское". Памятаю яшчэ, як ужо ў студэнцкія бунтарскія гады мы фламастарам дапісвалі перад гэтай назвай прыстаўку „анты-„ і толькі пасля гэтага выпівалі шыпучы напой. „Советского шампанскага" ў маркетах поўна і дагэтуль, праўда ў дадатак на паліцах з'явілася яшчэ два дзясяткі аналагічных марак вінаў. Так што можна купіць і „Радзівілаўскае" і „Леў Сапега" і нешта італьянскае ці французскае — што каму па гусце і па кішэні. А салату з гарошкам, як у нас называлі, мадыфікацыю французскага „аліўе", я ў адрозненне ад пачуццяў да Савецкага Саюза, люблю па-ранейшаму. Рэдка калі адчуваю сябе ў большасці, але тут якраз той выпадак.

Дык вось прайшоўся я па амаль пустым маркеце, адзначыў пра сябе крыху парадзелыя паліцы і нечакана выявіў, што ў гэтым вялікім магазіне зусім няма газаванай вады. Усё было і ёсць — і зялёны гарошак, і хлеб, і бульба, і вялікі выбар алкаголю. Хоць трэба прызнаць і зацеміць дадаткова — людзі ў алкаголі ўсё ж разбіраюцца і лепшыя моцныя напоі амаль раскупілі. Пляшку патрэбнага мне моцнага напою для вечаровай сяброўскай сустрэчы з кумам я знайшоў. Зусім не было толькі газаванай вады. Засталася толькі спрэс звычайная негазаваная. Тут я яшчэ раз адчуў сябе ў большасці, праўда, асабліва не ўзрадаваўся. Затое зразумеў важную рэч — перафразуючы вядомае крылатае выслоўе — жывіць людзей не бульба — жывіць людзей вада. Без бульбы можна пражыць, без вады — ніяк.

А ў іншым пераход старога года ў новы быў зусім звычайны. Усё тыя ж песні, усё тыя ж віншаванні начальніка Рэспублікі Беларусь на чужой мове, якіх беларускія патрыёты ўжо даўно не слухаюць, уключаючы на экранах толькі адлік секунднай стрэлкай на гадзінніку апошняй хвіліны адыходнага года. Сябра заўважыў, праўда, яшчэ адну адметную акалічнасць. На дзяржаўных расейскіх і беларускіх тэлеканалах зусім не было культавай савецкай кінастужкі „Іронія лёсу альбо з лёгкай парай". Ці ўжо сапраўды абрыд усім гэты фільм, ці справа ў выканаўцы галоўнай ролі — польскай акторцы Барбары Брыльскай. Яна неяк адмоўна, пасля расейскай агрэсіі ва Украіну, выказалася пра Уладзіміра Пуціна, якога раней вельмі любіла і ў якім расчаравалася. То вось пільныя ідэолагі зараз і перастрахаваліся.

Ну а вам, шаноўныя чытачы, пажадаю ніколі не расчароўвацца ў тых, каго любіце. І, канешне, верыць у лепшае.

З Новым годам і Калядамі!

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

# Вялікія і малыя



Аб дзвюх асобах, ідэалагічна далёкіх адна ад аднае, як зямныя полюсы, злучаных воссю абароту вакол польскіх спраў, варта і трэба памятаць. Напэўна мала чытаем «Rozważania o wojnie domowej», аўтарства першай з гэтых асоб, або «Rozważania o Rzeczypospolitej" — другой. Пік іх творчасці супаў з дактрынальна трывіяльнай, змрочнай гамулкоўшчынай і папраўдзе небанальнай, але падобна ідэалагічна кульгавай геркаўшчыны. Іх думкі сёння здаюцца быць бурклівымі і нават шаблоннымі. Іх выразны песімізм іхняга часу кладзецца на цяперашні, калі зноў „wszechrządy" над польскімі душамі прабуе перанясць дактрынальна падобная ПАРПаўскай партыя ПіС.

Першая асоба — Павел Ясяніца, выдатны гісторык і публіцыст. Другой з'яўляецца Ян Шчапанскі, відны сацыёлаг, крытычны, хоць адданы народнай уладзе душой і целам яе чыноўнік. Абодва ставілі дыягназ, кожны па-свойму і ў адпаведнасці з метадычнымі інструментамі, даступнымі для іх, тагачаснай палітычнай рэчаіснасці. Свайго песімізму непасрэдна не раскрывалі па прычыне аб цэнзуры, або самацэнзуры. Першы з іх вывучаў сучасную палітычную рэальнасць праз прызму гісторыі, напісанай малой „г": «Мы павінны адрозніваць веды ад візіі. Гэтыя першыя, як правіла, часам кульгавыя (...), але могуць падлягаць папраўкам. Але ці другая таксама?» — пытаўся. Сам, дарэчы, быў праціўнікам тагачаснай улады. Або лепш: як ўсемагутнасці і яе катастрафічных наступстваў, якія прыносіла. — «Нічога, на жаль, не абараняе грамадскасці ад палітычных актывістаў, выступаючых супраць прынцыпу падзелу ўлад і пастаяннага грамадскага кантролю над імі, — пісаў Ясяніца. — У той жа час [...] вопыт гісторыі паказвае, што ўлада канцэнтраваная і без тармазоў дае вынікі, як выпушчаныя на свабоду мікробы слупняка".

Ян Шчапанскі ў той час гучных, выпушчаных у першыя гады геркаўшчыны, сёння фактычна ідэалагічна заезджаных „Rozważaniach o Rzeczypospolitej", адважна паказвае прычыны фактычнага развалу польскай дзяржаўнасці. Заключае яе ў чатырох пунктах. Па-першае, гэта псіхічная неўраўнаважанасць нацыі і спадарожны ёй разлад. — «Народ, у якім пераважаюць механізмы расчаравання, надзвычай цяжкі для вядзення, кіравання ім, арганізавання яго (...) Лёгка бяруць у ім голас ідэалогіі расавай або рэлігійнай нянавісці і ахвотна падпарадкоўваецца ён правадырам з параноідальным характарам (...). Па-другое — расклад неафармальных сувязей інтэгруючых грамадства, у выніку чаго знікае грамадская думка і зніжаецца яе ўздзеянне, паслабляецца дзеянне маральных нормаў і меншае грамадскі кантроль за паводзінамі адзінак. (...) Група ва ўладзе ў кожнай дзяржаве і ў кожнай сістэме мае тры варыянты: кіраваць з нацыяй, над нацыяй або супраць нацыі». Як гэта адбываецца ў цяперашняй Польшчы?

«Rozważania o wojnie domowej» Паўла Ясяніцы датычаць толькі ілюзорна Французскай рэвалюцыі, і асабліва самага цёмнага перыяду Вялікага тэрору, ініцыяванага страшным законам ад 10 чэрвеня 1794 г., які на працягу наступных шасці тыдняў у адным толькі Парыжы прывёў на гільяціну 1376 людзей, асуджаных судзейскім трыбуналам да смерці без допыту сведак і права на адваката. Аўтарам гэтага закона быў праслаўуты Рабесп'ер, званы Incorruptible! Непадкупны! І сапраўды, ён «ніколі не браў хабару, не клапаціўся пра грошы, пазбягаў жанчын, піцця і не гуляў у карты. Акрамя таго, не спаў у канфіскаваным палацы, але ў цесляра, ад якога ён здымаў сціплы пакой. Вучэнне, якому служыў той чалавек, назваў Цнотай, Годнасцю. Аднак, гэта не было магчыма, як сцвярджаў, без тэрору! Тэрор з'яўляецца рухаючай сілай рэвалюцыі. Ці напэўна? Павел Ясяніца пісаў у іншым эсэ, што «рэвалюцыя не мусіць быць надзвычайнай гістарычнай падзеяй; можа быць штодзённай падзеяй у беспярапынным працэсе сацыяльна-палітычных і неабходных самапаправак, рэформаў. (...) Рэфармаванне не можа ніколі кончыцца, гэта сутнасць гэтых праграм, якім варта служыць. Яны складаюцца ў асноўным у імкненні скарацяць разрыў паміж рэальнымі людзьмі — на ўсіх палях без выключэння. (...) Усё залежыць, аднак, ад людзей. Ад палітыкаў. На жаль, палітычны лідар (...) як правіла — чалавек, які можа перахітрыць канкурэнцыю і выштурхнуцца на пярэдні план. Вырашальную ролю не мусіць іграць слушнасць праграмы, намнога больш патрэбныя толькі мабільнасць, свайго роду прадбачлівасць, у спалучэнні з бязлітаснасцю».

Міраслаў ГРЫКА



## Сваімі вачыма

# Беларускі запавет

— О вось яно! — і прытым падняты палец угару з галавой таксама павернутай у тым жа напрамку. Да гэтага шырокая ўсмешка і ... вобраз Юрыя Туронка ўсплывае перад маімі вачыма. Такім запамятаўся мне Спадар Юры з нашых шматгадовых і шматгадзінных сустрэч у студэнцкія варшаўскія дні. Такім эмацыянальным і ўспыхлівым быў асабліва ў час абмяркоўвання чарговых, крутых дарог беларускай гісторыі і палітыкі, асабліва ў дваццатым стагоддзі. Калі нехта пісаў ці выказваў звычайную лухту ў гэтай справе, Ягоны твар мяняўся навідавоку. Выказваючы сакраментальную фразу «О не, не», крывіўся, моршчыў твар і прытым абавязкова круціў галавою на знак нязгоды з выказаным ці пачутым. Да гэтага папяроска, кураная толькі ў для сябе адметны спосаб. Прытым заўсёды элегантна апрануты ў пінжак пад гальштукам, у світары ці безрукаўніку. Да гэтага зімою паліто і капялюш. Англійскі джэнтльмен, беларускі інтэлігент у польскай сталіцы. Для значнай, дзявочай часткі нашага пакалення, здаецца, быў узорам мужчынскасці. Прытым трэба адзначыць, што Юры Туронак, апрача сваёй гістарычнай любові, вельмі моцна любіў і адчуваў беларускую паэзію. Менавіта Ён з'яўляецца рэдактарам першага зборніка паэзіі Надзеі Артымовіч «Роздумы».

Халодны і разважлівы ў працы з дакументамі і пісанымі тэкстамі ў час непасрэдных сустрэч кіпеў ад эмоцый над чарговымі сваімі расследаваннямі і роздумамі. Як жыць, дык жыць для Беларусі, — паўтару за класікам. Гэта бачылася і адчувалася з Ягонай сямейнай спадчыны і жыццёвага выбару. Быў з намі на кожнае наша запрашэнне. Ад першага, падпольнага святкавання Акту 25 сакавіка ў Варшаве ў 1985 годзе, праз студэнцкія атрасціны, да супольнай вандроўкі на студэнцкім рэйдзе «Бацькаўшчына». Ехаў у Беласток ці Ольштын, каб нас падтрымаць і вучыць. Нам, маладзёнам, ставалася відавочным, што беларуская гісторыя і палітыка гэта справа нялёгкая, а ў мінулым стагоддзі надта балючая і крывавая. Будучы студэнтам гісторыі Варшаўскага ўніверсітэта, на кватэры Спадарства Зіны і Юрыя Туронкаў штудзіраваў я паралельна разам з сябрамі нашу спадчыну — незалежную, беларускую справу.

Тут пачыналі мы разумець паняцці кшталту геапалітычныя і нацыянальныя выклікі, гістарычная і палітычная незалежнасць, адстойванне беларускіх інтарэсаў, нацыянальная меншасць як заложнік палітычнай сітуацыі. Таму быў Ён прыхільнікам нашай беларускай канспірацыі і незалежных выданняў, якія ўзнікалі таксама на базе Ягонай бібліятэкі. З гістарычных высноў вёў нас непазбежны шлях да патрэбы палітычнага думання і дзеяння. Створаны і кіраваны Юрым Туронкам Беларускі клуб, як месца той нашай палітычнай буры мазгоў, быў адказам на палітычныя перамены ў Польшчы ў другой палове васьмідзясятых гадоў.

Прытым трэба выразна сказаць, што для Спадара Туронка разгляд беларускага пытання ў Польшчы абавязкова павінен бачыцца на фоне агульнабеларускага, незалежніцкага кантэксту, які пачынаў мець месца ў Рэспубліцы Беларусь. Невыпадкова па Ягонай ініцыятыве пабачыў свет паўлегальны часопіс «Кантакт» як форум абмену думкамі наконт мінулага і сённяшняга дня беларускай палітыкі паабапал мяжы. Палітычна не сталі мы перамоўцамі і тут на Беласточчыне, і ў Рэспубліцы Беларусь. Але кінутую нам рукавіцу гісторыі паднялі. Хаця акунуліся з маладымі гарачымі галовамі ў моры бязлітаснага, палітычнага рахунку, не аказаліся мы да канца самымі апошнімі. Нашы падляшскабеластоцкія палітычныя бітвы не былі да канца зразумелымі для Спадара Туронка. Відаць, міжваенныя сямейныя ўспаміны, досвед на ўласнай шкуры дзвюх ваенных акупацый і рэальны сацыялізм, усё вымеранае і вычытанае дадаткова ў архівах свету давялі Яго да высновы пра прысуджаную беспасяхоўвасць нашых дзеянняў. Але гаворачы словамі Сакрата Яновіча, то Пані Гісторыя будзе разбірацца з намі і нашымі рашэннямі.

І калі ў мінулым годзе мы адзначалі ў Беластоку сотую гадавіну абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі, то сімвалічную Пагоню проста ад сэрца і душы падарылі мы Вам за ўсё зробленае для нас і беларускай справы. Калі Вы зараз, Спадар Юры, у гэтым лепшым свеце, то хачу сказаць, што Ваш беларускі запавет жывы і будзе жыць вечна!

Яўген ВАПА

# У войску бывала па-рознаму

Зараз некаторым маладым хлопцам нават складана ўявіць, што іх бацькі, уваходзячы ў дарослае жыццё, мусілі два або нават тры гады адбываць абавязковую вайсковую службу. У войску бывала па-рознаму, частка нашых продкаў змагалася і траціла жыццё ў час ваенных дзеянняў. Аб'яднанне развіцця Дубіцкай зямлі «Бахматы» з Грабаўца нядаўна закончыла рэалізаваць праект «У службе ІІ Рэчы Паспалітай», у час якога сабрана была інфармацыя наконт абавязковай вайсковай службы ў Войску Польскім жыхароў Дубіцкай гміны ў міжваенны перыяд. Сабраны былі таксама фатаграфіі для выставы ў Гмінным асяродку культуры, а з запісаных ад мясцовых жыхароў рэкруцкіх і вайсковых песень быў выдадзены спеўнік. Рэалізацыя праекта закончылася вечарынай, падчас якой вучні Пачатковай школы з дадатковым навучаннем беларускай мове ў Орлі займальна запрэзентавалі пастаноўку «Рэкруты» на арлянскай гаворцы. У час сустрэчы з дакладамі пра службу беларусаў у Войску Польскім у ІІ Рэчы Паспалітай выступілі настаўніца гісторыі ў Комплексе прафесійных школ у Гайнаўцы Іаанна Сапяжынская і запрошаныя гісторыкі, а вакальны жаночы калектыў, які дзейнічае пры Гмінным асяродку культуры ў Дубічах-Царкоўных, праспяваў рэкруцкія і сучасныя песні.



Вучні з Орлі ў пастаноўцы «Рэкруты»



Публіка. На першым плане — Іаанна Сапяжынская і Дарыюш Гарадэцкі

Спатканне адкрыла і вяла Іаанна Сапяжынская, ураджэнка Вітава, якая актыўна дзейнічае ў Аб'яднанні «Бахматы» і моцна ангажавалася ў рэалізацыю праекта «У службе ІІ Рэчы Паспалітай». Прывітала яна гасцей, сярод якіх былі старшыня Аб'яднання самаўрадаў Еўрарэгіёна «Белавежская пушча» і заадно бургамістр Гайнаўкі Ежы Сірак, настаяцель Праваслаўнага прыхода ў Вярстоку айцец Павел Кучынскі, дырэктар Гарадской публічнай бібліятэкі ў Гайнаўцы Ала Грыц, мясцовыя самаўрадаўцы і новая дырэктар Гміннага асяродка культуры ў Дубічах-Царкоўных Мірaслава Іванюк. Апрача запрошаных гасцей і жыхароў Дубіцкай і Арлянскай гмін, заўважыў я ў зале таксама жыхароў суседніх гмін.

— Калі нашы жыхары вярнуліся з бежанства або гэты перыяд пражылі ў сваіх вёсках, паколькі і так было ў выпадку часткі жыхароў Дубіцкай гміны, апынуліся яны ў новай ім рэчаіснасці ІІ Рэчы Паспалітай. Слаба ведалі польскую мову і апасаліся новых парадкаў. Часта былі высыланыя на вайсковую службу ў заходнюю частку Польшчы. Аднак найбольш нашых хлопцаў у міжваенны перыяд служыла ў адным месцы — якраз у 22 Палку пяхоты ў Седльцах і таму сёння будзе даклад якраз пра гэты полк. Нашы хлопцы ў войску траплялі ў польскае асяроддзе. Здараліся тады насмешкі з-за няведання польскай мовы і польскіх рэалій, але таксама па прычыне праваслаўнага веравызнання. Менш было павышэнняў і адзначэнняў для нашых хлопцаў у параўнанні з іншымі вайскоўцамі. Не траплялі яны ў падраздзяленні спецыяльнага прызначэння, іншыя больш прэстыжныя вайсковыя часці і падраздзяленні, у якіх захоўваліся тайныя інфармацыі. Аднак былыя жаўнеры не хацелі расказваць дрэнных успамінаў сваім дзецям і ўнукам, найчасцей распавядалі пра поспехі або смешныя сітуацыі падчас пабыўкі ў войску і гэтыя аповеды засталіся ў сямейных успамінах, — сказала настаўніца Іаанна Сапяжынская, якая выступіла з дакладам пра службу хлопцаў з Дубіцкай гміны ў Войску Польскім у міжваенны перыяд.

З дакладам «Геапалітычныя ўмовы ў рэгіёне Белавежскай пушчы ў 1918-1922 гадах» выступіў гісторык Ян Ежы Мілеўскі. Перш за ўсё адзначыў ён, што малая ангажаванасць беларусаў Дубіцкай і суседніх гмін у палітычную дзейнасць і невялікі іх удзел у першых выбарах выкліканы былі перш за ўсё адсутнасцю большасці мясцовага насельніцтва, якое было ў гэты час у бежанстве, а пасля вяртання дамоў — з-за недаверу да ўлад ІІ Рэчы Паспалітай. Пра 22 Полк пяхоты ў Седльцах, службу ў ім жыхароў Гайнаўскага павета ў міжваенным дваццацігоддзі і аб удзеле іх у ваенных дзеяннях у 1918-1921 гадах распавядаў Славамір Кардачук, намеснік дырэктара Рэгіянальнага музея ў Седльцах.

На выставе ў вялікай зале асяродка культуры экспануюцца фатаграфіі з часу вайсковай службы ў міжваенны перыяд тадышніх жыхароў Дубіцкай гміны. Пра некаторых герояў змешчаных на выставе здымкаў распавядалі ў час спаткання іх нашчадкі. Напрыклад, спадарыня Мірaслава Іванюк расказвала аб сваім дзядулі, які быў узорным стралком.

Калі на сцэну выйшлі вучні Пачатковай школы ў Орлі, публіка ўспрыняла іх выступ з вялікім зацікаўленнем. Пастаноўку «Рэкруты» падрыхтавалі ў Орлі з дапамогай настаўнікаў Альжбеты Цюлькевіч і Дарыюша Гарадэцкага. Разам з вучнямі займаюцца яны збіраннем і запісваннем тапонімаў і прадметаў з мінуўшчыны, якія захоўваюць у арлянскай школе. Публіцы спадабаліся прадуманы і цікавы сцэнарый пастаноўкі, умелая ігра маладых акцёраў і, канешне, спеў у выкананні вучняў, якія спявалі на сцэне і за бакавой занавескай, калі іх сябры знаходзіліся на сцэне. На ўвагу заслугоўвала багатае сцэнічнае афармленне ў выглядзе інтэр'ера колішняй вясковай хаты.

— Мала асоб сярод нас умее гаварыць па-свойму і таму мы развучвалі сваё партыі выказванняў на памяць. Падрыхтоўка да выступу і прэзентаванне «Рэкрутаў» гэта добрая нагода для знаёмства з нашай гісторыяй і традыцыямі. Мы тут таксама вучымся гаварыць па-свойму і нам спадабалася гульня ў тэатр. Рыхтуючыся выступаць, мы вучыліся як трэба паводзіць сябе на сцэне. Стараліся мы спалучыць нашы выказванні і спяванне песень у цэласць, каб паказаць як праводзілі маладых хлопцаў у войска бацькі і сябры, — гаварылі вучні арлянскай школы.

— Мы падрыхтавалі пастаноўку ў рамках праекта «Давайце зробім тэатр — Рэкруты». Сабралі мы рэкруцкія песні і запісалі аповеды, як праводзілі хлопцаў у салдаты за расійскім часам. Падрыхтавалі рэквізіты да сцэнічнага афармлення, якія ў мінулым знаходзіліся ў вясковых хатах і хацелі, каб вучні запрэзентаваліся ў вопратцы набліжанай да колішніх убораў. Вучні ахвотна рыхтаваліся да выступу, а мы з настаўнікам Дарыюшам Гарадэцкім дапамагаем ім рэалізаваць наш праект. Нашы вучні збіраюць і запісваюць тапонімы ў вёсках Арлянскай гміны, стараемся захаваць традыцыі, — распавядала настаўніца арлянскай школы Альжбета Цюлькевіч.

Дырэктар Пачатковай школы з дадатковым навучаннем беларускай мове ў Орлі Марыя Томчук пахваліла сваіх вучняў і настаўнікаў Альжбету Цюлькевіч і Дарыюша Гарадэцкага за вялікую ангажаванасць дзеля захавання мясцовых традыцый. Вучні цікава паказалі як калісьці праводзілі рэкрутаў у войска. Гэтая традыцыя ў абмежаванай форме захоўвалася ў вёсках Гайнаўшчыны і Бельшчыны практычна да канца абавязковай вайсковай службы, якую не так даўно замяніла прафесійная вайсковая служба для ахвотнікаў і аб гэтым вучні таксама даведаліся падчас падрыхтоўкі пастаноўкі «Рэкруты». Хаця нядаўна провады ў войска засяроджваліся ў галоўным на гасцяванні рэкрута з сябрамі і сямейнікамі, то момант благаслаўлення іконай будучага жаўнера застаўся як надзея на Божую ахову ад няшчасных здарэнняў падчас вайсковай службы.

Важнымі момантамі ў рэалізацыі праекта «У службе ІІ Рэчы Паспалітай» было запісанне рэкруцкіх і вайсковых песень і выданне спеўніка з гэтымі творамі на мясцовай гаворцы, на расійскай і польскай мовах, паколькі песні паўставалі падчас службы ў расійскім і польскім войску.

— Зараз складана сабраць даўнія песні, паколькі вельмі мала засталося ўжо носьбітаў мясцовага фальклору, якія ведаюць даўнія творы. Мы ў спеўніку змясцілі рэкруцкія і вайсковыя песні, якія заспявалі нам Марыя Галёнка з Тафілаўцаў, Валянціна Назарук з Вітава і ўзялі іх таксама з Арлянскай гміны, з кніжкі «Песні Бельскай зямлі», якія апрацаваў Сцяпан Копа, — удакладніла Іаанна Сапяжынская.

— Аб'яднанне «Бахматы» з Грабаўца цяпер канчае рэалізаваць праект «У службе ІІ Рэчы Паспалітай», падчас якога ўдалося нам знайсці звесткі пра абавязковую вайсковую службу жыхароў Дубіцкай гміны ў Войску Польскім у міжваенны перыяд. Важна, што людзі перадалі нам фатаграфіі з часу вайсковай службы, дзякуючы чаму мы наладзілі выставу. Гэтыя здымкі — частка нашай супольнай гісторыі. Калі жаўнеры фатаграфаваліся падчас вайсковай службы, наша наогул беднае грамадства мала рабіла сямейных здымкаў і фатаграфіі продкаў у вайсковай форме асабліва дарагія нашым жыхарам. Нашы продкі служылі ў Войску Польскім у розных часцях, але бывала, што траплялі таксама ў тыя самыя мясцовасці. Мой дзядуля Васіль Дзік з Малых Пасечнікаў служыў у Модліне, дзе служыў таксама Кірыл Масальскі — дзядуля майго мужа Владка, — распавядала старшыня Аб'яднання развіцця Дубіцкай зямлі «Бахматы» ў Грабаўцы Людміла Петручук і дабавіла, што праект «У службе ІІ Рэчы Паспалітай» фінансава падтрымала праграма «Дзейнічай мясцова» Аб'яднання самаўрадаў Еўрарэгіёна «Белавежская пушча». — Я рада, што некаторыя з запісаных намі рэкруцкіх і вайсковых песень будуць запрэзентаваны жаночым вакальным калектывам, які займаецца пры асяродку культуры ў Дубічах.

Паколькі на вечарыне адсутнічаў войт Дубіцкай гміны Лявон Малашэўскі, пад канец мерапрыемства выступіў сакратар гміны Мікола Лаўрыновіч, які ўспомніў, між іншым, пра сваю вайсковую службу ў даўніх казармах 22 Палка пяхоты ў Седльцах, пра якія раней распавядаў Славамір Кардачук з Рэгіянальнага музея ў Седльцах. Спадар Мікола Лаўрыновіч паінфармаваў сабраных таксама, што на пасаду дырэктара Гміннага асяродка культуры ў Дубічах-Царкоўных ужо прынята Мірaслава Іванюк. Старшыня Аб'яднання самаўрадаў Еўрарэгіёна «Белавежская пушча», бургамістр Гайнаўкі Ежы Сірак пахваліў ініцыятыву Аб'яднання «Бахматы» па збіранні і захаванні гістарычных матэрыялаў, якую папоўнілі даклады аб вайсковай службе жыхароў Дубіцкай гміны ў Войску Польскім.

Тэкст і фота
**Аляксей МАРОЗА**

## Бельская дэмаграфія

Дэмаграфія — гэта статыстычнае апісанне ўсіх жыхароў акрэсленай тэрыторыі (іх лік, пол, узроставыя групы, родная мова, імёны, адукацыя, прафесія, веравызнанне і г. д.). Коратка разгледзім тэму на прыкладзе аднае гміны ў Бельскім павеце.

Вясковая гміна Бельск-Падляшскі займае плошчу ў 430 квадратных кіламетраў — гэта адна трэцяя частка тэрыторыі Бельскага павета. Зараз тут пражывае 6835 чалавек. На 100 жанчын прыпадае столькі сама мужчын. Шчыльнасць насельніцтва нешматлікая, бо ўсяго толькі 16 асоб на квадратны кіламетр. Варта адзначыць, што тры гады таму Бельская вясковая гміна налічвала 6966 чалавек. Як бачым, цяпер лік вясковага насельніцтва памяншаецца.

Найбольшыя вёскі ў Бельскай гміне гэта: Відава — сяло налічвае 550 жыхароў, Аўгустова — 530, Пілікі — 280, Кнарыды — 260, Плёскі — 235, Лубін-Касцельны — 230, Дубяжын — 210, Праневічы — 200, Кнаразы — 195, Парцава — 180, Гацькі — 175, Грабавец — 170, Крывая, Райск і Галады — па 150. Да найменшых вёсачак належаць: Арлянка — тут жыве ўсяго 10 чалавек, Белая — 16, Яцэвічы — 20 ды Падбелле і Ступнікі — па 22 жыхары.

У 2017 годзе на Бельшчыне „залатое вяселле" згулялі 42 шлюбныя пары і ў 2018 годзе — 22 пары (найбольш пар было з Аўгустова, Дэнісак, Дубяжына, Плёсак і Сакоў).

## Веласіпедныя сцяжынкі

У Беластоку з кожным годам прыбывае веласіпедных сцежак. Цяпер маем іх больш ста кіламетраў. Новыя трасы для веласіпедыстаў пабудавалі па вуліцах Вярбовай і Канстытуцыі 3 Мая. На некаторых артэрыях дарожкі бягуць нават паабапал вуліц, між іншым, на вуліцы ген. Мачка і ген. Клеберга. Каб было больш бяспечна ехаць, пабудавалі дарожкі на беразе рачулкі Белай ды пад двума мастамі ўздоўж алеі Пілсудскага да вуліцы Палацовай (гэта ў цэнтры горада). Новыя будуюць першнаперш тады, калі вуліцы перабудоўваюць і пашыраюць.

У 2017 годзе будавалі новыя веласіпедныя шляхі, між іншым, пры вуліцы Браніцкага, Радзымінскай, І Арміі Войска Польскага, Пагоднай, Звежынецкай і ген. Берлінга ды пабудавалі 3-кіламетровую дарожку з Беластока ў Васількаў. Веласіпедная сцежка вядзе ўжо і ў Супрасль.

А зараз пачалі пабудову новага веласіпеднага шляху ў напрамку падбеластоцкага Юхноўца-Касцельнага. Пабяжыць ён пабач тамашняй павятовай дарогі. Будзе ён 9-кіламетровай даўжыні і шырынёй у 3,5 м. Кошт гэтай інвестыцыі прадбачваецца на 18,5 млн. злотых. Здадуць яе ў карыстанне ў кастрычніку 2019 года і тады памчацца па дарожцы веласіпедысты.

## Старыя дрэвы

Паўсотні старых ды з вялікімі гнёздамі амялы таполяў стаіць пры пясчанай дарозе з Плянты ў Нараўку Гайнаўскага павета. З сухіх дрэў звісаюць і падаюць у равы галіны. Некаторыя ліставыя дрэвы пераламаў напорысты вецер. Старых ды сухіх дрэў чамусьці не сякуць.

Каб ссячы старыя таполі ў Плянтаўскім салэцтве, не дамагаецца ў войта радны і солтыс. Але ўсё бывае да пары. У ветраны дзень ці такую ж ноч сухія таполі і іх галіны могуць упасці на дарогу. Перш за ўсё гэта небяспека для пражываючых тут людзей, якія ездзяць і ходзяць па справах у Нараўку, а тут, між іншым, школа, касцёл, царква, гміннае ўпраўленне, амбулаторыя, аптэка, гмінны асяродак культуры, банк, пастарунак паліцыі, пошта і крамы. Варта дадаць, што Плянта налічвае 157 чалавек.

Гэтаксама справа маецца з таполямі ў Старым Ляўкове пры павятовай асфальтавай дарозе ў напрамку Лешукоў. Тут дрэвы ўжо здаўна пазначаныя чырвонай фарбай да ссячэння, але Павятовае праўленне дарог у Гайнаўцы нічога больш не робіць. **(яц)**

# Як спявалі за сталом, то хата трашчала



Фота Міхала МІНЦЭВІЧА

Размова з **Віталём СОХАМ**, 1949 года нараджэння з Тапаркоў у Кляшчэлеўскай гміне; успамін сямейнай гісторыі.

**— Ці Вы помніце сваіх дзядоў?**

— Калі я нарадзіўся, то жыла толькі бабуля Насця, мама маёй мамы Сафіі. Бабуля жыла ў Рутцы каля Дубіч-Царкоўных. Удавіцай гадавала чатырох хлапцоў і дзве дзяўчыны. У нашай сям'і ў Тапарках я нарадзіўся апошнім, дванаццатым дзіцём. Некалькі ранейшых дзяцей памерла. У аднаго з дзядзькоў было сямёра дзяцей, у другога васьмёра. Дзядзька Вася Ляўчук жыў у Орлі.

Здаралася, збярэмся ў бабулі, а там хата маленькая была. Бывала і па дваццаць унукаў. То бабуля не ведала, што з намі рабіць дык брала кіёк і разганяла па кутках. Бабуля пра нішто мне не расказвала, але і з сваіх бацькоў пра нішто не распытваў. Па сённяшні дзень здзіўляюся, чаму я не пытаў. Шмат чаго не ведаю, але ўжо запозна.

Мама Сафія паходзіла з Руткі, тата быў з Тапаркоў. Калі пажаніліся, то мой дзедка Арцём падзяліў усім дзецям па адным гектары поля. Мая мама атрымала крыху больш, бо і лугі. Дзедка на калёніі з Руткі ў Рудуты пабудаваў хатку з дыляў, накрыў дахоўкай. Там жылі мае брат і сёстры: Фрося (1931 года нараджэння), Фанась (1932), Ніна (1933), Эля (1938) і Гандзя (1939). Усе яны не хадзілі ў школу, толькі Фанась пасля неяк два класы скончыў. Мелі файную карову Гомель, якую з Нямеччыны прывезла цётка. І пачалася вайна.

Сталі прыходзіць партызаны. Аднойчы дзядзька Вася заўважыў партызан у нас на вышках. Бацька Міхал залез на высокую грушу ў полі, каб азірнуцца па наваколлі. А мама ўзяла пяцёра дзяцей і пайшла ў выкапанае схованку, ратавацца. Прыехалі немцы і хадзілі па тым схованку, пясок асыпаўся. У біноклях пабачылі кагосьці на дрэве і пачалі страляць; бацька ўцёк у Тапаркі. Знайшлі маму і загадалі ісці з дзяцьмі ў напрамку Рудутаў. Трое дзяцей ішло трымаючыся спадніцы, а двое недакормленых несла на руках і думала, што раздасца выстрал. Хлопчык агляннуўся і сказаў: «Мама, усё гарыць». Гэта гарэлі нашы збудаванні.

З часам сталі жыць у Тапарках. Пабудавалі вялікую хату крытую саламянаю страхой. Там нарадзілася яшчэ сястра Вера і я. Выжыла нас толькі сямёра, а пяцёра народжаных да вайны памерла адно за адным: Андрэй, Аляксей, Віктар, Віталь і Наталля. Паміралі ва ўзросце двух-трох гадоў ад дыфтэрыту. Мама несла пакутлівы крыж. Бывала, што ўначы родзіць, а ўдзень ідзе палоць агарод. І ўсіх нас нарадзіла дома. Такое было наша жыццё.

Бацька нейкі час быў у Расіі, у войску. Калі вярнуўся, гаварыў нам, каб мы яго называлі папам. Размаўляў на чыста расейскай мове і нам казаў, каб і мы так размаўлялі. А з нас пачалі смяяцца і мы гаварылі пасвойму. З Расіі хваліў толькі рускую „баню".

**— Гэта ведаеце з расказаў. А як Вы запамяталі сваё дзяцінства?**

— Я быў наймалодшы. З сямейнікамі не вельмі гуляў, бо калі я нарадзіўся, то найстарэйшыя былі амаль дарослыя. І выехалі ў Ольштынскае. Вера паехала туды да брата на працу ў ПГР Падонгі каля Паслэнка. Тут асталіся толькі Ніна і Гандзя.

**— А як было з навукай?**

— Мы ўсе вучыліся добра. Але бацькі гаварылі: «А хто цябе будзе далей вучыць? За што?». То адзін настаўнік нават прыходзіў да бацькоў і сварыўся. Я ў школу пайшоў у 1956 годзе ў Сакі, у новы будынак, бо да тае пары навучанне адбывалася ў хатах. Я па-польску нават размаўляць не ўмеў; тады мы ўсе не ўмелі. Вучыла настаўніца Сасноўска...

**— Сёстры, пэўна, Вас любілі, наймалодшага?**

— Як я быў у першым класе, то сястра Вера была ў сёмым. А калі быў у пятым класе, то сястра Фрося выехала з мужам у Амерыку. Жылі яны ў Падонгах, яе муж меў сям'ю за граніцай, то дазволілі выехаць. Сястра была непісьменная, зусім не хадзіла ў школу, то лісты пісаў ейны муж Бронэк. Часта пісаў, каб мяне забраць у Амерыку, але мама не згаджалася, была хворая. Швагер Бронэк прывёз мне столькі цукеркаў, што я ніколі ў жыцці не бачыў; хадзіў і еў.

Адна сястра вывучылася на краўчыху, другая пайшла вучыцца ў сельскагаспадарчы тэхнікум у Чартаеў, то мама апошняе яйка прадавала, каб ёй на школу. Пасля крыху вучыла ў Сабятыне, а потым выехала ў Ольштын і там выйшла замуж. І бывала так, што сёстры заўсёды куплялі мне нейкую вопратку, нагавіцы. То мне, наймалодшаму, было ў сям'і найлепш.

Усе выехалі з дому. Было ў нас дзве каровы, то я ва ўзросце дванаццаці гадоў сам даіў, упраўляўся. Мелі дзве каровы і каня. Быў ужо самастойны, бо маме памагаў з малога. Кончыў сем класаў. Хацеў ісці далей, але мама плача: «Як я буду бэз тэбэ?». Пайшоў толькі на маторны і трактарны курсы.

**— А войска?**

— Дзесяць разоў ставаў на камісію, давалі катэгорыю „А", але адтэрміноўвалі, беручы пад увагу ўтрыманне сям'і, бо бацькі былі старыя. З майго рочніка то хіба чатырох не было ў войску.

**— Ці жаніліся? Як пайшло Ваша дарослае жыццё?**

— Не жаніўся і нікому нічога не вінаваты. Я змалку гуляў у прадаўца. І 13 кастрычніка 1973 года пераняў у нас, у Тапарках, клуб. Будынак на святліцу калісь прадаў вёсцы Мішка Шыранос. І да 2003 года ў тым клубе быў прадаўцом. Фірма „Рух" давозіла тавар, таксама цукар і піва. Абладзіў справу, што і хлеб пастаўлялі. Калі зліквідавалі клуб, то я адразу стаў на працу ў Літвіновіча, які клуб арандаваў. Але пасля года ён закрыў краму. То мяне ўзяла на працу фірма Комэль з Кляшчэль, а пасля працаваў у Марыяна Вярбы з Сакоў. Была праблема з зарплатай, то я сам заснаваў краму.

**— Але адкуль крама ў клубе?**

— Калі стаў дзейнічаць клуб, то адкрылі ў ім краму і была канкурэнцыя для гэсаўскай крамы. Але я вытрымаў канкурэнцыю; усе пакідалі, а я вытрымаў да канца. На канец санэпідэмстанцыя стала чапляцца, што няма прыбіральні. Звольніліся з працы. І тады дарабляў на вуліцы як інтэрвенцыйны, ездзіў у Кляшчэлі на веласіпедзе. Палову года перапрацую, а палову астаюся дома. Так дапрацаваў да 65 гадоў і 5 месяцаў і пайшоў на пенсію.

Цяжка было, бо трэба было ўсё самому, і рапарты пісаць, і па тавар ездзіць. Былі пакражы: і ў краме, і дома мне ўкралі грошы. Гэта моцна адбілася на маім здароўі — па сённяшні дзень. Помню, у святліцы холадна, вокны пабіты. Хочаш — устаўляй; гміна пра нішто не турбавалася. Расходаваў адну жалезную печку, пасля другую.

**— Калісь людзі ў вёсцы спявалі...**

— Як у вёсцы спявалі, то не пераставалі. Было сем хлапцоў, маіх равеснікаў, і мае ўсе сёстры спявалі. І змалку я ўсе песні знаў. Як спявалі за гасцінным сталом, то хата трашчала. А бацька граў на баяне, іграў па вяселлях. Маме гаварылі: «О, твой іграе, то добра зарабляе». А наш бацька гуляў, два дні дадому не прыходзіў, пакуль не прапіў. Не было карысці з таго грання. Мне часта бацька сніцца, як іграе...

**— Вы зараз выступаеце на сцэне?**

— Быў старшынёй ЗМВ. Я першы тут заспяваў „Чырвону руту". Ніводнае вяселле ў нас не абышлося без мяне, бо забавы адбываліся ў клубе. На вяселлі запрашалі ўсю моладзь. І ўсе ведалі, што як тапароўцы спяваюць, то ніхто іх не пераспявае. Так было цягам доўгіх гадоў.

Я з Валяй Марціновіч з Краснага Сяла ездзіў у Казімеж-Дольны на агляд; выступілі ў дуэце. Некалькі гадоў выступаў з „Малінкамі" з Маліннік. А ад шасці гадоў разам з Валяй далучыліся да калектыву „Арляне". Па нас — мяне і Валю — прыязджае і давозіць на рэпетыцыі інструктар Мікалай Фадзін.

Планы? Рыхтуемся да „Беларускай песні" ў студзені і на юбілей „Вэрвачак". А пакуль калядкі. Узнагароды мне не найважнейшыя. Найважнейшае — быць у кампаніі.

**— Дзякую за размову.**

Гутарыў
**Міхал МІНЦЭВІЧ**

Пры маёй памяці аўтобусны вакзал у Беластоку двойчы мяняў сваё месца: недзе ў 1980-х гадах перабраўся з вуліцы Юравецкай у суседства чыгуначнага вакзала, а ў мінулым годзе перабраўся ў амаль тое ж самае месца. А вось чыгуначны вакзал здаецца стаяць непарушна і спрадвечна ў адным месцы. Праўда, пры той жа маёй памяці цалкам нядаўна прайшоў ён грунтоўны рамонт, а вось зноў ён у стане яшчэ больш грунтоўнага рамонту. Магчыма, што яго, як і суседні аўтобусны вакзал, раскідалі б, як рэлікт царскага, чужога, часу, калі б не тое, што ён у не надта даўнім рэйтынгу быў ацэнены найпрыгажэйшым у Польшчы, пакідаючы за сабою люблінскі і чанстахоўскі вакзалы...

З часу, калі Беласток стаў сядзібай гетмана Браніцкага ў XVIII стагоддзі, задзейнічала тут першая ўстанова публічнай камунікацыі, якой была колішняя пошта. У Беластоку ў якасці пасажырскага сродка дзейнічала яна да другой паловы XIX стагоддзя. Паштовая ўстанова займала месца ў трохпаверховым доме ў цяперашнім Рынку Касцюшкі; пры ёй была гасцініца ды стайня, у якой было 18 коней. Паштовая лінія, як нядаўна на гэтых старонках згадвалася, пралягала між Вільняй і Варшавай, а бліжэйшымі падобнымі паштовымі станцыямі былі Букшталь і Войшкі.

XIX стагоддзе, названае векам пары, прывяло ў Беласток новы сродак камунікацыі — чыгунку. Была гэта лінія, якая спалучыла сталіцу царскай імперыі Пецярбург са сталіцай намінальнага тады Каралеўства Польскага Варшавай. Першыя планы пракладкі чыгуначнай лініі цераз Беласток паўсталі ў 1830-х гадах — мела яна праходзіць з Масквы цераз Віцебск, Вільню і Беласток у Варшаву. А пазней, пасля здачы ў карыстанне Варшаўска-Венскай чыгункі, план памяняўся і ў 1851 годзе сталі пракладваць лінію з Пецярбурга цераз тыя ж Вільню і Беласток. Праклалі нямнога з Пецярбурга, беручы пад увагу ваенныя расходы дзеля Крымскай вайны; пракладка была ўзноўлена ў канцы 1850-х гадоў. Аднак, як гэта ў нашым найбліжэйшым свеце бывае, планы гэтай лініі значна залежалі ад хабараў, якія трэба было плаціць праекціроўшчыкам за правядзенне чыгункі цераз нейкія мясцовасці, або здалёк ад іх. Лінія таксама паглынала вялікія грашовыя сродкі, таму цар Аляксандр II, каб перасячы хабарніцтва, перад трасіроўкай лініі з Беластока ў Варшаву, прыклаў лінейку да карты і нарысаваў прамую лінію, па якой той адрэзак чыгункі меў пралегчы. Быў гэта такі ж прыём, які прымяніў ягоны бацька, цар Мікалай I, правёўшы прамую лінію між Пецярбургам і Масквой...

Беласток у палове XIX стагоддзя выглядаў крыху інакш чым зараз. Месца, абранае пад чыгуначны вакзал, было за межамі тадышняга горада. Было гэта забалочанае месца, зарослае чаротам і альшынай, якое часткова асушылі, часткова засыпалі, лес высеклі. Вакзал быў пабудаваны ў пачатку 1860-х гадоў, а ў канцы XIX стагоддзя разбудаваны. Афіцыйна чыгуначная лінія паміж Беластокам і Варшавай была адкрыта 27 снежня (15 снежня паводле расійскага календара) 1862 года. Амаль да канца XIX стагоддзя не было сталага раскладу адпраўлення цягнікоў; паязды хадзілі паводле іхніх магчымасцей. Між Беластокам і Віленскім вакзалам Варшавы поезд ехаў амаль шэсць гадзін... Аб прыездзе цягніка паведамлялі адмысловыя званы: першы звон раздаваўся калі поезд набліжаўся, другі — калі паяўляўся на гарызонце, а трэці — калі прыязджаў на станцыю... 11 гадоў пазней побач Беластока, цераз Старасельцы, была пракладзена Брэсцка-Граеўская чыгуначная лінія, а ў 1886 годзе — Беластоцка-Баранавіцкая. У жніўні 1915 года адступаючая расійская армія падпаліла беластоцкі вакзал; тое ж самае зрабілі немцы ў ліпені 1944 года. У наступных гадах вакзал адбудоўвалі...

Фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА




# Вакзал

Уваход на цяперашні беластоцкі вакзал




Уваход на беластоцкі вакзал 75 гадоў таму. Лозунг: „Колы мусяць каціцца для перамогі"

Чыгунку цераз Беласток правялі паводле рашэння імператара Аляксандра II. Варта прыгадаць, што расійскія цары некалькі разоў бывалі ў горадзе. Ужо Павел I, Аляксандр I і Мікалай I бывалі праездам у Беластоку. А Аляксандр II бываў у Беластоку аж пяцікратна: у 1860, 1867, 1868, 1870 і 1875 гадах. І вытрымка з расійскай газеты канца XIX стагоддзя: „Въ августе 1897 года подъ Белостокомъ происходили большие маневры въ присутствіи Государя Императора Николая II и другихъ Августейшихъ Особъ. По прибытіи въ Белостокъ Ихъ Величества посетили (25 августа) Белостокскій соборъ, где соборнымъ духовенствомъ было совершено многолетіе и осененіе св. крестомъ по чину „бываемому въ церквахъ, находящихся по пути Высочайшаго шествія". При выходе Ихъ Величествъ изъ собора, стоявшія въ ограде дети двухъ Белостокскихъ церковно-приходскихъ, мужской и женской, школъ и Тростяницкой церковно-учительской — пели „Спаси, Господи, люди Твоя" и устилали цветами путь Ихъ Величествъ".

Пецярбургска-варшаўская чыгунка будавалася чарговымі адрэзкамі: у 1859 годзе была наладжана рэгулярная камунікацыя ў Пскоў, у 1860 — у Дзвінск, у пачатку 1862 года ў падвіленскае Ландварова, і ў канцы 1862 года — у Варшаву. Сам імператар Аляксандр II у 1858 годзе „изволил прибыть из Пскова в Царское Село", а ў наступным „изволил проехать из Динабурга до Царского Села по вновь отстроенному пути".

Царскія паездкі Аляксандра II па чыгуначнай Пецярбургска-Варшаўскай лініі не прынеслі нейкіх галосных сенсацый, такіх, як паездка ягонага сына Аляксандра III у 1888 годзе, калі ягоны поезд пацярпеў трагічную катастрофу каля Харкава. Затое цалкам камічнае было падарожжа ягонага бацькі Мікалая I па новенькай тады чыгунцы з Пецярбурга ў Маскву. Будаўнікі лініі рашылі пахваліцца перад імператарам сваімі дасягненнямі. Адзін з іх запрасіў цара праехацца ў 1851 годзе ў Маскву, хаця чыгунка яшчэ толькі будавалася. Але — па чарзе...

Кожны малады інжынер, прыцягнуты на будову навастройкі, хацеў паказаць свае ўмеласці і, для прыкладу, намагаўся пабудаваць на вызначаным яму адрэзку мост — нават там, дзе вады не было, але тлумачылася гэта неабходнасцю забяспечыцца на выпадак веснавых разводдзяў. Так было з адным з мастоў каля Масквы, які пасля быў раскіданы, пад чыгуначную лінію была насыпана дамба, пад якою паклалі адно трубу для сцёку веснавых вод...

Годам да планаванай паездкі цара ў Маскву адзін з галоўных будаўнікоў чыгункі, граф Клейнміхель, паабяцаў цару паездку па новай лініі. Ён не надта кумекаў у інжынерных тонкасцях мерапрыемства і калі з царскага палаца прыйшло паведамленне пра згоду цара, усе будаўнікі моцна ўстрывожыліся. Узяліся, галоўным чынам, за масты, аднак і іх, нягледзячы на экстранны тэмп работ, будавалі нават у час праезду; некаторыя масты былі яшчэ падперты рыштаваннямі, па некаторых цягнік ішоў вельмі асцярожна. Працавала ўсё навакольнае насельніцтва — нават жанчыны з дзецьмі валачылі зямлю вёдрамі і кашамі. На некаторых станцыях не было вадакачак і ваду для паравозаў прыходзілася давозіць коннымі вазамі. Не было яшчэ суцэльнага тэлеграфа, не хапала запасных паравозаў на выпадак аварыі.

На адной са станцый граф захацеў паказаць цару недалёкі мост. Імператар прайшоўся да таго моста, захапіўся яго канструкцыяй і, паколькі не меў пры сабе адзнак, зняў у аднаго са сваёй світы Уладзімірскі крыж і павесіў на мундзіры маладога інжынера, які быў адказны за ўзвядзенне таго моста. Пасля селі ў вагоны. Запыхаў паравоз, закруціліся ягоныя колы, але цягнік з месца не крануўся — ні ўзад, ні ўперад. Цар са світай выселі з поезда і ўбачылі, што рэйкі памазаны свежанькай алейнай фарбай — каб было прыгожа — па якой коўзаліся колы паравоза. Даставілі дрызіну з пяском, якая ехала перад царскім паравозам і сыпала пясок на рэйкі. У далейшай дарозе цар ужо не выходзіў са свайго вагона-салона, але пасля падарожжа ўзнагародзіў галоўных будаўнікоў высокімі ордэнамі...

Варта дадаць, што ў 1899 годзе ў дадатак да Пецярбургска-Варшаўскай чыгункі была здадзена ў карыстанне лінія паміж Гроднам і Алітай, якая зараз складае частку чыгункі паміж Сувалкамі і Саколкай. У 1893 годзе была здадзена ў карыстанне лінія паміж Лапамі і Астралэнкай. А ў наш час некаторыя адрэзкі гістарычнай лініі ў выніку перасячэння новых дзяржаўных граніц не служаць свайму пачатковаму прызначэнню. І яшчэ да ўсяго гэтага варта дадаць, што 17 сакавіка 1917 года цар Мікалай II падпісаў у сваім царскім вагоне на станцыі ў Пскове тадышняй Пецярбургска-Варшаўскай чыгункі эпахальную пастанову аб сваім адрачэнні ад трона...

Аляксандр ВЯРБІЦКІ



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Літаратурны рэбус!

Свет адгаданак і рэбусаў дамагаецца ўвагі! Вось прапанова, надасланая вучнямі Праваслаўнай школы, перайшла ўсякія спадзяванні. Многія вучні адразу здагадаліся, пра якое слова ідзе мова. Правільны адказ на рэбус з № 49 гучыць: **Беларусь.**

Сёння прапануем падарожжа ў белавежскія нетры, у мясціну, звязаную з вядомым аўтарам літаратурнага аб'яднання «Белавежа».

Рэбус прыдумалі **Магда Вайцешык** і **Мікола Абрамюк.**

У сувязі з тым, што мы атрымалі шмат адказаў на згаданы рэбус, рэдакцыя назначыла ўзнагароды. Наклейкі выйгралі **Паўліна Лянкевіч, Габрыела Кіяшэк** з Шудзялава, **Матвей Зыскоўскі, Юстына Астапковіч** з ПШ № 1 у Гайнаўцы, **Караліна Кондрат** і **Мартына Лукша** з Нараўкі. Віншуем!






**Спявае бельскі «Капрыс»**



(Байкі сярэднявечнай Арменіі)

# Сарока

Сарока — дзіўная птушка. Дзе яна — там скрыгат, там крык. Карацей, больш таго крыку, як гэтай птушкі. А калі побач звяры, тады вакол яе ў тры разы больш шуму і крыку.

Здаецца — увесь лес дзяўбецца ды дзярэцца!

Аднойчы птушаня спытала ў сарокі:

— Маці, а чаму ты заўсёды скрыголіш пры іншых? Навошта той шум, той вэрхал? Не лепш жыць ціхенька, непрыкметна?

— Паслухай дзіцятка, — параіла яму сарока, — нам нельга іначай жыць.

— Чаму нельга?

— Бо мы падымаем крык і шум, каб паказаць сябе бадзёрымі і бясстрашнымі. Тады нашы ворагі адступаюць. Яны не накінуцца на вялікіх крыкуноў з кіпцюрамі!

*(пераклад з рускай мовы Ганны Кандрацюк)*

Ларыса ГЕНІЮШ

## Год і яго род

Год стары дзяцей склікае,
Ён да ўсіх пытанні мае.
Сеў паважна ў крэсла:
— Што, вясна, прынесла?
— Я прынесла травы, кветкі,
Птушак ў неба, рыбу ў сеткі.
— А я, лета, нясу хлеба,
Маю ягад, колькі трэба,
Ўсе зграбаю сенажаці.
Не сяджу ніколі ў хаце.
Людзям — збожжа,
дрэву — плод,
Птушкам — гнёзды,
пчолам — мёд.
— Я, татуля, твая восень,
Змалаціла ўсё калоссе.
Ў садзе яблыкі паспелі,
Птушкі ў выраі паляцелі.
Я арэхаў назбірала,
Бульбу ў полі пакапала.
— Я, зіма, работу маю:
Дол абрусам засцілаю,
Я дні-ночы на хаду
Пражу белую праду.
Едзе сын, Новы год, —
Вось і ўвесь дзядулеў род.

**УВАГА КОНКУРС!**
**№ 02-19**

**Пад соснамі,**
**пад ёлкамі**
**ляжыць клубок**
**з іголкамі.**
**В....**

**Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку" да 27 студзеня 2019 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.**

**Загадкі з роднай хаткі**

**Адказ на загадку № 50: пенал. Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі Кацпар Каліноўскі, Марцін Галёнка, Аліўка Порац з Нарвы, Адрыян Казлоўскі, Юльянна Высоцкая, Мікола Троц, Маня Мартыновіч з КШ № 3 у Бельску-Падляшскім. Віншуем!**

# У Залуках пляцецца!



Павукі, анёлы, калядныя ўпрыгожванні — гэта толькі частка прадметаў, якія могуць быць зроблены з саломы! У пачатковай школе ў Залуках прайшлі майстар-класы па саломапляценні.

На Падляшшы да гэтай пары захаваліся традыцыйныя рамёствы, звязаныя з апрацоўкай саломы. Зоя Майстровіч жыве ў вёсцы Рудуты, што ў Арлянскай гміне. Апрача цацак з саломы спадарыня Зоя піша казкі і вершы перш за ўсё на беларускай мове.

Вучні ў час майстар-класаў прыемна правялі час пры працы ўласных рук. Кожнаму ўдалося стварыць уласную саламяную цацку, або элемент для супольнага каляднага павука. Спадарыня Зоя ў час працы спявала песні і дэкламавала вучням свае вершы. Часта былі гэта вершы з мараллю. Пасля аднаго з іх наш сябар Пеця сказаў: «Пані Зоя, гэта простае, а такое прыгожае!».

Дзякуючы спадарыні Зоі саломапляценне на Падляшшы жыве. Яна захоўвае для нас традыцыі і мудрасць, якія перадаюцца з пакалення ў пакаленне. Навучыла нас рамяству, якое знікае.

А гэта кароткае інтэрв'ю, якое вучні з Журналісцкага кола ўзялі ў спадарыні Зоі.

**Каміль Мартонік: — Ад каго Вы навучыліся рабіць павукі?**

**Зоя Майстровіч:** — Я навучылася павучкі рабіць ад сваёй цёткі Олі і мамы. Я яшчэ малая была — мне гадоў было шэсць і я тады ўпершыню пабачыла такога павучка. Калісьці вешалі яго на конскім воласе. Яго нават не было відаць! Здавалася, што павук круціцца ў паветры. Некаторыя гавораць, што павук сімвалізуе сям'ю: ёсць вялікі элемент, пазней меншыя, меншыя, меншыя...

**Марыся Якімец: — Як доўга Вы гэтым займаецеся?**

**ЗМ:** — У маім жыцці салома была з дзяцінства! Мая маці рабіла маты ў «Цэпэліі» і я, будучы малой дзяўчынкай, ёй дапамагала. Пазней рабілі каробкі з саломы, лялькі, зорачкі, павукі... Салома спадарожнічае мне з дзяцінства па сённяшні час — а мне ўжо 66 гадоў (*смех*).

**Патрыцыя Каранкевіч: — Колькі часу Вам спатрэбіцца, каб зрабіць такі павук?**

**ЗМ:** — Калі яго робіць адна асоба, тады чалавек суцішаецца. Я такі павук раблю за два дні.

**Каміль Мартонік: — Ці часта вучыце дзяцей рабіць павукі?**

**ЗМ:** — Так, я вельмі люблю працаваць з дзецьмі. Ужо больш за 10 гадоў паказваю, як рабіць розныя рэчы з саломы. Я стараюся таксама навучыць цярплівасці і дакладнасці.

**Патрыцыя Каранкевіч: — Чаго хочаце нам пажадаць на Каляды?**

**ЗМ:** (*смех*) — Здароўя! І таго, каб пераводзілі вас з класа ў клас. Шануйце сваіх настаўнікаў, бацькоў, дзядоў, сваіх сяброў — усіх шануйце. Гэта самае галоўнае, што калі чалавек культурны, яму ўсюды будзе добра. Але калі шалапут, то нідзе не знойдзе месца. І калі вы ўжо нешта робіце — рабіце гэта дакладна. Тады іншыя будуць з вас браць прыклад.

**Журналісцкае кола: — Дзякуем!!!**



**фота Уршулі Шубзды**

**Васіль Дэбіш**

## Зіма

**Снег белы.**  
**Ён на сонцы аж гарыць.**  
**І чысты-чысты.**  
**А па светлым груба**  
**Ідзе натоўп.**  
**Куляюцца з гары**  
**Падлеткі.**  
**І ляцяць адчайна**  
**ў гурбы.**

**Вясёлым смехам**  
**Поўніцца іх лёт.**  
**Як зорачкі,**  
**Сняжынкі пад нагамі...**  
**Люстэркам залатым**  
**Іскрыцца лёд,**  
**І вершы я па ім**  
**Пішу канькамі.**

## Польска-беларуская крыжаванка № 02-19

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку н-р 50-2018:**

Крок, арэлі, як, грыб, гномік, леў, лік, ніўка, то, тон, жар, сад, сайт. Няня, кок, нос, гліна, гнеў, кароўка, Рым, дэбіл, Кітай, пік, корт.

Узнагароды, **гелевы бракат**, выйгралі **Мая Станкевіч, Марыя Якімец** з Залук, **Марыя Ціханюк, Тацяна Байко** з ПШ № 4 у Гайнаўцы, **Марта Петручук, Оля Мадзалеўская** з Нарвы, **Патрыцыя Нявінская** з Орлі, **Мая Куптэль** з Нараўкі, **Каміля Бушко, Габрыся Лапінская** з КШ з ДНБМ у Бельску-Падляшскім. Віншуем!



1 ☞працяг

# СПАДАР

ні тым больш у Варшаве. У Мінску мне сказалі, што лепш, каб я даследаваў эканоміку Польшчы. А ў Варшаве ніхто не глядзеў на Беларусь як суб’ект, а ўспрымалі яе як частку Савецкага Саюза. Дзесьці з пачатку 1960-х гадоў стаў я вывучаць і апісваць беларускае школьніцтва на Беласточчыне і так пайшло.

**— Пасля Вашага даклада, калі не памыляюся, у 1988 годзе ў Беластоку, абвінавацілі Вас у тым, што Вы параўналі стан беларускай асветы на Беласточчыне ў час нямецкай акупацыі і ў 1980-я гады. Параўнанне атрымалася, мякка кажучы, не на карысць Польскай Народнай Рэспублікі.**

— Даклад я рыхтаваў на з’езд настаўнікаў у Бельску, але ці я там рабіў такое параўнанне? Не памятаю.

— Мог такое сказаць, — спадарыня Зіна ўсміхаецца.
— Аднак да Туронка цяжка было прычапіцца, бо ён свае словы падпіраў лічбамі. У яго статыстыка на першым месцы.

**— Абапіраючыся на статыстыку і, перш-наперш на дакументы, Вы паказалі залежнасць навучання беларускай мовы не столькі ад жадання народа, а ад палітычных рашэнняў.**

— Так. Ніхто не пытаў жыхароў Беласточчыны, калі ліквідавалі беларускае школьніцтва ў 1946 годзе і ніхто не пытаў, калі яго ўваскрашалі ў 1949 годзе. У другім выпадку яўна не абышлося без умяшальніцтва Савецкага пасольства ў Варшаве. Пра гэта, дарэчы, казала мне дырэктар Архіва новых акт Браніслава Скшэшэўская, калі я вывучаў там дакументы датычныя школьніцтва: Nie można opierać się jedynie na statystyce. W pierwszych latach powojennych na studia do Warszawy przyjeżdżało dużo ludzi z Białostocczyzny i oni chodzili do Ambasady Radzieckiej ze skargami, jaką to szkodę uczyniła im Polska likwidując szkolnictwo białoruskie. Здаецца, ведала, што гаворыць, бо яе муж Станіслаў Скшэшэўскі быў міністрам асветы. Пра актыўную ролю Польскай аб’яднанай рабочай партыі пісаў я ў дакладзе на навуковай сесіі прысвечанай 20-годдзю БГКТ. Пазней Сакрат Яновіч выдаў гэты даклад асобнай брашурай[5].
Або возьмем колькасць дзяцей і моладзі, якія вывучалі беларускую мову. Нягледзячы на чарговыя захады асветных улад па змяншэнні ролі беларускай мовы, якія наглядаліся з пачатку 1960-х гадоў[6], лік вучняў быў стабільны — каля 11 тысяч. Рэзка ўпаў толькі ў 1972 годзе, а тады якраз з пасадай першага сакратара Ваяводскага камітэта Польскай аб’яднанай рабочай партыі развітаўся Аркадзь Лашэвіч[7]. Супадзенне? Не думаю. Усё паказвае на тое, што Лашэвіч не пускаў у ход некаторых некарысных распараджэнняў адносна навучання беларускай мовы. З Лашэвічам, дарэчы, у мяне адна асабістая гісторыя, якой я да сёння не разумею.

**— Чую, што ёсць інтрыга.**

— Летам 1956 года прыехаў з Беластока ў Варшаву Аляксей Казёл[8]. Мы сустрэліся, шпацыравалі па Кракаўскім прадмесці. Ён даў мне запіску і папрасіў перадаць яе Лашэвічу, які ў той час працаваў у Галоўнай пракуратуры. А Галоўная пракуратура і мая рэдакцыя часопіса „Rynki Zagraniczne” былі ў тым самым будынку.

— На вуліцы Трэмбацкай, — удакладняе спадарыня Зіна.

— Так, так... Мы нават адну сталоўку мелі. Я паабедаў і пайшоў у частку будынка, якую займала пракуратура. На той час я не ведаў, хто такі Лашэвіч, але паабяцаў жа перадаць цыдулку. Знайшоў яго кабінет, там такая была ветлівая сакратарка і ўпусціла мяне. Сядзіць Лашэвіч за біюркам і здзіўлены пытае: Jak żeście tutaj doszli? — Razem pracujemy. Ja w Polskiej Izbie Handlu Zagranicznego. Перадаў я яму тую запіску ад Казла і больш ніколі Лашэвіча не бачыў. А калі Лашэвіч стаў першым сакратаром Ваяводскага камітэта партыі ў Беластоку, кіраўнікі Беларускага грамадска-культурнага таварыства — Казёл, Давідзюк, Станкевіч — сталі да мяне адносіцца з увагай. Далі мне паўнамоцтвы рэпрэзентаваць БГКТ у Варшаве і Варшаўскім ваяводстве і, крыху пазней, службовую легітымацыю са здымкам.

**— Цікава. Як гэтая прыслуга падняла Ваш прэстыж у вачах беларускіх партыйных стаўленікаў.**

— Была яшчэ адна цікавая падзея, якая паўплывала на тое, як на мяне глядзелі ў Беларускім таварыстве. У 1957 годзе арганізаваў я экскурсію студэнтаў беларускай філалогіі Варшаўскага ўніверсітэта ў Мінск, Гомель, Навагрудак. Апекавалася намі арганізацыя БелОКС[9], па сутнасці філіял беларускай бяспекі, дык нічога нам не бракавала, акрамя свабоднага часу. Тады я пазнаёміўся са студэнткай Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта Ефрасінняй, з якой пазней хацеў сустрэцца, каб абмеркаваць жыццёвыя пытанні.
Другі раз я паехаў у Мінск у красавіку 1958 года. На той час быў я старшынёй Варшаўскага аддзела Беларускага грамадска-культурнага таварыства, апублікаваў ужо некалькі артыкулаў у „Ніве”, дык прозвішча там дзе трэба было вядомае. У Мінску запрасілі мяне ў рэдакцыю газеты „Літаратура і мастацтва” і папрасілі зачытаць ім даклад пра БГКТ. Ахвотна, але ж раней у іх была дэлегацыя з Беластока, у тым ліку Казёл і Георгій Валкавыцкі, чаму іх не прасілі? Ну, зачытаў я даклад, які потым быў надрукаваны ў „ЛіМе”, за які мне яшчэ да друку заплацілі вялікі ганарар — 350 рублёў. Тады запрасілі мяне на ганаровую трыбуну ў час першамайскага шэсця. Я стаяў побач Максіма Танка і вельмі ў ім расчараваўся, бо чуў як ён да дачок гаворыць па-руску.

— А ты думаў, што ўсе беларусы, як ты, будуць усюды і з усімі гаварыць па-беларуску, — смяецца спадарыня Зіна.



З жонкай Зінай і ўнучкам Алянам

— Ну, прынамсі са мною стараліся гаварыць. У нашым клубе на Сенатарскай[10] царыла беларуская мова. Колькі б выпускнікі ліцэяў у Гайнаўцы ці Бельску не стараліся між сабою пшэкаць, то да мяне адзываліся толькі па-беларуску.

— За гэта ты і атрымаў мянушку „нацыяналіст”, — кажа Зіна.

— Са мною нават агент савецкай бяспекі, які прыехаў у Варшаву ў снежні 1958 года, гаварыў на прыгожай беларускай мове.

**— Адкуль Вы ведаеце, што гэта быў агент бяспекі?**

— Паўстагоддзя пазней Лена Глагоўская знайшла ў польскім Інстытуце нацыянальнай памяці справаздачу савецкага разведчыка «Бурана», які прыехаў у Польшчу дзеля таго, каб даследаваць дзейнасць беларускіх нацыяналістаў. У той справаздачы «Буран» выказваўся прыхільна аб падрабязнасцях майго прабывання ў Мінску. Пасля тае трыбуны я быў у гасцях у супрацоўніка „ЛіМа” Алеся Бажко. Мы прыемна правялі час з ім і ягонай жонкай, якая дарэчы таксама гаварыла на прыгожай беларускай мове. Праз некалькі месяцаў Бажко прыехаў у Варшаву, але пад псеўданімам «Буран». Аднак з аднолькава пазітыўным стаўленнем да мяне. У той час спецслужбы БССР уплывалі на Ефрасінню, каб яна не звязвалася з чужаземцам. А гэта ж быў асноўны матыў маіх мерапрыемстваў у Мінску.
Такі вось адказ на Вашае запытанне.

**— Улічваючы рэаліі эпохі, разумею, што зацікаўленасць савецкай бяспекі Вашай асобай давала Вам, парадаксальна, спакой ад польскай.**

— Дакладна так. Польская бяспека не адважылася перабегчы дарогу сваім савецкім калегам. Тут я меў спакой.

**— А чаму гэта, як Вы сказалі, паўплывала на Вашу пазіцыю ў БГКТ?**

— Ну, я ж стаяў на трыбуне разам з найважнейшымі ў той час людзьмі ў БССР. Дадам яшчэ, што тады вучыліся ў Мінску Аляксандр Баршчэўскі і Мікола Гайдук, але іх не запрашалі на трыбуну. Гэта мяне не раз ратавала ад нападкаў з боку партыйных актывістаў у Беларускім таварыстве, якія ахвотна мяне з’елі б за маю незалежнасць, але баяліся, што я ім не па зубах.

**— Незалежнасць праявілі Вы таксама ў Вашых гістарычных публікацыях. Ніхто па сутнасці да Вас не разглядаў Беларусі, беларускага руху ў час Другой сусветнай вайны як суб’екта. След сказаць, што і сёння, трыццаць-сорак гадоў пасля Вашых артыкулаў і кніг, у Беларусі дамінуе савецкая гістарыяграфія, паводле якой беларусы разам з астатнімі народамі СССР толькі тое і рабілі, што змагаліся з гітлераўцамі. Ці былі ў Вас непрыемнасці ў Беларусі з-за Вашых навуковых прац?**

— Калі я ўсур’ёз заняўся біяграфіяй Вацлава Іваноўскага, а затым акупацыяй, то крыху знізіў актыўнасць на грамадскай ніве. Працаваў пераважна ў польскіх архівах. Адышла патрэба і ахвота ездзіць у Беларусь, дык асабліва не перажываў за тое, якую ацэнку маім доследам дасць беларуская партыйная вярхушка. А навуковае асяроддзе, спачатку ў Польшчы, затым і ў Беларусі ўспрыняло мае працы вельмі добра. Чытаюць мае працы і спасылаюцца на іх.

**— Памятаю абарону Вашай доктарскай дысертацыі „Беларусь пад нямецкай акупацыяй” у Польскай акадэміі навук. Быў я ў групе тадышніх студэнтаў, якіх вы вучылі не толькі гісторыі, але і нацыянальнай годнасці. Памятаю ўрачысты настрой, пачуццё гонару і наша хваляванне.**

— Ну, на ўрачыстасці можна і хвалявацца, але ў навуковай працы я ніколі не кіраваўся эмоцыямі. Проста сумленна гартаў дакументы і аб’ектыўна іх аналізаваў. Дарэчы, у мяне шмат дакументаў, артыкулаў і рукапісаў па гісторыі беларускага школьніцтва, да якіх я ўжо не загляну. Я хацеў бы перадаць іх вам, можа спатрэбяцца. Можа Славамір Іванюк, як архівіст імі зоймецца?
Спадарыня Зіна прыносіць шэсць тоўстых папак, на якіх рукою Юрыя Туронка напісана, якіх гадоў датычаць дакументы і якая іх тэматыка.

**— Вялікі дзякуй. Тады падарунак за падарунак: свежая, проста з друкарні кніга „Гісторыя беларусаў Падляшша”[11].**

— О, цікава! Ёсць у ёй нешта ад мяне?

**— Амаль усе аўтары прайшлі Вашу гістарычную школу. Без Вас, смела магу сказаць, не было б гэтай кнігі. Дарэчы, наколькі Вы былі важнай асобай для майго пакалення, сведчыць тое, што мы ў студэнцкія гады звалі Вас адным словам: Спадар. Абавязкова з вялікай літары!**

Размаўляў
**Мікола ВАЎРАНЮК**

1 Ю. Туронак, За кардонам Бацькаўшчыны, Мінск: „Медысонт”, 2010, с. 9.
2 Ю. Туронак, Памяці Браніслава Туронка, Ню Ёрк: Беларускі інстытут навукі й мастацтва — Варшава, 1990, с. 53.
3 Ю. Туронак, За кардонам..., с. 72.
4 Ю. Туронак, op. cit., с. 158.
5 Ю. Туронак, Беларускае школьніцтва на Беласточчыне ў пасляваенны перыяд, Беласток 1976.
6 „Сваёй інструкцыяй ад 17 лістапада 1962 г., накіраванай беластоцкай кураторыі, міністэрства асветы ўпершыню закваліфікавала беларускую мову ў польскамоўных школах як дадатковы факультатыўны прадмет і, без кансультацыі з бацькамі, дазволіла кіраўнікам школ вызваляць вучняў ад абавязковага вывучэння роднай мовы”. Ю. Туронак, За кардонам..., с. 185-186.
7 Аркадзь Лашэвіч (1916-1985) – дзеяч Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі, пасля вайны – Польскай аб’яднанай рабочай партыі. У 1944 годзе стаў начальнікам Управы інфармацыі і прапаганды ў Беластоку, ад 1947 па 1949 быў старшынёй Ваяводскай камісіі партыйнага кантролю ў Беластоку. У 1949-1952 гг. у Цэнтральнай камісіі партыйтынага кантролю Польскай аб’яднанай рабочай партыі. Ад 1952 года па красававік 1956 – першы сакратар Ваяводскага камітэта ПАРП у Жэшаве. Ад красавіка па снежань 1956 – намеснік Генеральнага пракурора Польскай Народнай Рэспублікі. Ад 01.12.1956 г. па 31.12.1971 г. – першы сакратар Ваяводскага камітэта партыі ў Беластоку. Затым, да 1980 года – член Цэнтральнай рэвізійнай камісіі ПАРП. Быў таксама дэпутатам Сойма ПНР (1952-1957 і 1961-1976) і членам ЦК ПАРП (1964-1971).
8 У той час сакратар Галоўнага праўлення БГКТ.
9 БелОКС — Белорусское общество дружбы и культурной связи с зарубежными странами.
10 Сядзіба Варшаўскага аддзела Беларускага грамадска-культурнага таварыства — на вуліцы Сенатарскай, 8 (1956-1988 гг.).
11 Historia Białorusinów Podlasia, red. S. Iwaniuk, O. Łatyszonek, Białystok 2017.

# Новыя Вершы



Дар'юш ЖУКОЎСКІ

*Santa Claus, Arctic Circle, 96930 Rovaniemi, Finland*

Дзякуй Табе, Святы Мікалай,
За падарунак, які ты мне тады прынёс,
Даўно таму ў малую Падляшскую вёску,
Зіма была сапраўднай, як калісь,
Першая зорка ўжо ўпала з боку Меляшкоў,
Мае трусікі ўжо пачалі размаўляць,
Сука Аза спала спакойна ў сваёй будцы,
Снег пад ботамі ўсёй сям'і хрусцеў як павінна быць,
Калі мы ішлі ў студзеньскую марозную ноч да дзедкі Яшы,
Мы ўсе былі ў камплекце,
Нават нечаканы госць паявіўся ў час,
Якраз перад Хрыстом,
Для якога не знайшлося месца
У Віфлееме ў ніводнай гасподзе
І які нарадзіўся
Ў стайні, у галечы і халадэчы,
Дзякуй Табе, што не забыўся пра мяне,
Дома на белым кухонным крэдэнсе,
Дзе заўсёды быў хлеб (найлепшыя былі скібкі з вадой і цукрам)
З гарадоцкай пякарні,
Стаў малы глобус,
Ты прынёс мне тады ўвесь свет.

* * *

Я хацеў бы мець такую сілу,
Каб на ўсіх дрэвах,
З карцін Лявона Тарасэвіча,
Павесіць цацкі і ёлачныя агні,
Так як малое дзіця ў марозную,
Студзеньскую раніцу аздабляе,
Прынесенай з лесу (самыя прыгожыя былі ў Рымара),
Калядную ёлачку — крыніцу жыцця,
З надзеяй на прыход вечарам,
Чаканага іншага дзіцяці,
Каб тыя агеньчыкі абаранялі ад цемры і зла,
Калядныя ланцугі ўмацоўвалі сямейныя сувязі,
А Віфлеемская зорка дапамагала ў вяртанні дадому
Спадзяюся, што ніхто гэтых яго дрэў
Не высек і ўсё будзе згодна з традыцыяй,
І прасфоры хопіць для ўсіх.

* * *

Мае дзіцячыя вершы нізка каля зямлі,
Увесь том паэзіі расце на палях, на лугах, на дрэвах,
Часам яны ў замарожанай пойме Супраслі,
У марозны лютаўскі дзень,
Шчыпаюць у нос і ў рукі,
Часам бываюць крывыя і нахіленыя,
Як бег па муры вакол царквы,
Або сціскаюць у горле як нядзельнае кадзіла,
Распальванае з Маркам,
Самыя высокія былі на яблыні-папяроўцы,
У садзе побач з домам,
Мелі яны смак ранняга лета,
І няспелага яблыка,
Або кіслай белай парэчкі,
Часам яны балючыя, як разбітае калена,
Або як стрэмка загнаная ў палец,
Ім толькі па некалькі гадоў,
Яшчэ нічога не разумеюць,
З гэтак званага жыцця,
Не ведаюць таксама, што
**Паэзія** гэта частка прыгожага пісьменства,
Ахопліваючая вершаваныя творы ў адрозненне ад прозы,
Штодзённага жыцця на вуліцы Крывой,
Якая нічога не тлумачыць,
Нічога не высвятляе.

# Тры вершы і адно пасляслоўе



Андрэй СЦЕПАНЮК

**На пяцьдзясят пяць**

Я перазагрузіў сваё жыццё
клік
клік
і што было
пайшло

Новыя словы і сказы новыя
новая мова
новыя жанчыны
а калі-небудзь і мужчыны
клік
клік
і ўсё

На панадворку беласць пустая
не выклікае ненадуманасці
і стаяўшы плыве
а нават ідзе

Я перазагрузіў быццё
на тое што было
на радасць
на смутак
на адно

Няхай скончыцца яно
тое нармальнае
тое рэальнае
безназоўнае
безмазгоўнае
яно

Я перазагрузіў сваё жыццё
а яно і так
не змянілася
і без пытання
адышло

**з крыкам**

з крыкам узлятаю
малюся
падаю
плачу
уцякаю
з крыкам адлятаю

на поўнач ці на захад
на поўдзень ці на ўсход
крылы нясуць мяне
або боінг — самалёт

лячу над лесам
над горадам лячу
ніхто мяне не бачыць
не ведае чаго хачу

а так хочацца каб было
святло
дабро
цяпло
усё яно
і таму з крыкам узлятаю

* * *

блакіту твайго не ўмею зразумець
разыходзіцца ён паміж трыма адлюстраваннямі часу

вось усё кажаш і рукой адкідаеш
апошні сон ашалелага розуму

з вечара выхінаюць вочы поўныя плачу і задумы
а над вейкамі разыходзяцца цені

не ўмею зразумець твайго блакіту
ён не колер

**Пасляслоўе**

Пасля слоў давай сядзем і скаштуем халоднай гарбаты
Маглі б закурыць папяроску але гэта робіцца пасля сексу
А ў нас толькі скончыліся словы
Нуль слоў
Нуль думак
Нуль вершаў
Змярканне

Дэбют

Надзея КАРЧЭЎСКАЯ

# Вечная бежанка

У час першай вайны мая мама Аня мела 12 гадоў. Разам з усёй сям'ёй выехалі яны на Галіцыю, як бежанцы. Падчас дарогі памёр тата і там, дзе памёр — яго і пахавалі. Калі заехалі на месца, памерла і мама. Засталося шасцёра дзяцей — чатырох сыноў і дзве дачкі — дзевяцігадовая Паранька і мая мама Аня. Двух братоў ужо былі жанатымі, і ні адзін не хацеў апекавацца сястрычкамі, бо і самім было цяжка ўтрымацца на чужыне, прытым у час вайны. Але самаўрад у гэтай мясцовасці рашыў, каб дзяўчаткамі заняліся людзі. На вяскоым сходзе адна багатая пані сказала, што возьме гэтых сіротак да сябе, каб іх не раздзяляць. Падпісала дакументы і забрала дзяўчатак да сябе дадому. Мела яна двое малых дзяцей. Прынесла бярозавую галінку і павесіла на сцяне, сказаўшы малым, што маюць слухацца няні Ані, а калі будуць непаслухмяныя, нянечка можа гэтай розачкай ударыць ім па ножках. Гэтая галінка гэта дух сяты — «адвучыць ад злосці, не паломіць косці»! Дзеці паўтарылі гэты вершык і вельмі слухалі няню. Гаспадыня была багатая і вельмі добрая. Аня занялася малечамі, а Паранька паліла ў печах пачкаванай саломай, бо ў гэтай мясцовасці не было лесу. Пані з мужам часта выязджалі дарожкай у госці, запрашалі таксама гасцей дахаты. Мелі добрага кухара, які смачна варыў, а кожны трэці дзень пёк хлеб. Аня падрастала, і кухар прасіў у яе дапамогі, бо яму было цяжка. Пані была задаволеная, што Аня яму дапамагае і ўмее ўсё зрабіць. Тады Паранька занялася дзецьмі.

Кухар прасіў Аню, каб расчыняла хлеб, на другі дзень замясіла і ў печ памагала яго ўсадзіць. Хлеб пяклі там не ў бляхах, а на лапатцы, высланай лісцем хрэну або капусты. Аня клала на лапатку прыгожа ўфармаваны ў буханку вырaслы хлеб і ўсоўвала ў разагрэтую печ. Пару гадоў памагала Аня кухару, усяго ад яго навучылася. Калі адышоў, кухмаранне пані перадала Ані. Вельмі расхвальвала яе перад гасцямі, што такая маладая, а вельмі смачна варыць, а які хлеб пячэ! Так хваліла Аніна майстэрства па ўсёй Галіцыі. Прыехаў у сваты да яе хлопец. Спадабаўся Ані, але не хацела выходзіць замуж у чужой старане. Спадзявалася, што неўзабаве наступіць такая хвіліна, што забярэ сваю сястру і вернуцца на радзіму. Браты намаўлялі, каб ішла за гэтага багата хлопца, тады не трэба будзе даваць ёй пасагу. Аня выйшла за галічаніна, а неўзабаве ўся яе сям'я выехала дадому — вайна сціхла. Але для Ані пачалася вайна. Спачатку пасля вяселля было някепска, але пасля свякруха штодзень ёй паўтарала «не магу глядзець, як па маіх высокіх парогах ходзіць бежанка». Хаця Аня была ўмелай гаспадыняй, усё роўна была найгоршай. Была ўжо ў сёмым месяцы цяжарнасці, але не мела падтрымкі і ў мужа. А ён да яе стаў зусім абыякавым. Аня была зусім безабаронная. Калі б

працяг ☞



■ Анна наведала свайго першага сына Мішу (першы справа) разам з сынам Мікалаем, калі ёй споўнілася 78 гадоў



Больш за шэсць гадоў таму, напачатку верасня 2012 года „Ніва" пісала пра „Беларускі дом у Варшаве", які быў створаны палітычнымі ўцекачамі з Беларусі. У той час сайт дадзенай арганізацыі месціўся па адрасе **http://belhouse.org** і на ім змяшчалася інфармацыя пра беларускую дыяспару, падзеі ў Беларусі, прававую дапамогу ўцекачам.

„Беларускі дом у Варшаве складаецца з дзвюх частак — фундацыі „Еўрапейская Беларусь" і структуры „Беларускі інфармацыйны дом". Першая — гэта грамадзянская арганізацыя, мэта якой увядзенне Беларусі да Еўрасаюзу, абароны правоў і свабоды грамадзян Беларусі. Задача Беларускага інфармацыйнага дому — стварэнне беларускам форуму для абмену поглядамі, дэмакратызацыя беларускай дзяржавы, падтрымка незалежных медыяў на Беларусі, а таксама дапамога сусветным медыям у пашырэнні ведаў аб Беларусі", — так акрэслівалі мэты сваёй дзейнасці шэсць гадоў таму стваральнікі „Беларускага дому".

Калі цяпер зазірнуць на дадзены сайт, то нічога з вышэйзгаданага там ужо няма. Гэта значыць, што віртуальнае прадстаўніцтва „Беларускага дому ў Варшаве" там больш не месціцца. І знайсці яго можна па новым адрасе — **http://belaruskidom.eu.**

Тое-сёе з папярэдняга сайта на новым захавалася. Гэта, перш за ўсё, лагатып арганізацыі, які месціцца ў левым верхнім вугле цэлага выяўлення. Усё астатняе — і рубрыкі, і выгляд, і інфармацыя цалкам змяніліся, прычым далёка не ў лепшы бок. Так, каб цяпер даведацца, што ж такое „Беларускі дом у Варшаве", трэба даволі доўга шукаць інфармацыю аб гэтым. Па логіцы, яна мусіць месціцца ў рубрыцы „Пра нас". Аднак там няма практычна нічога. Толькі ў падрубрыцы „Дакументы" мы знойдзем спасылку на статут арганізацыі ў фармаце пдф. „Fundacja „Białoruski Dom", zwana w treści statutu „Fundacją", została ustanowiona przez Aliaksandra Zarembiuka i Filipa Piotra Ślęzaka", — паведамляецца там. Вельмі дзіўна, што фундатары не размясцілі дадзены дакумент у больш лёгкім доступе, па сутнасці, схаваўшы яго.

Такой жа пустой ёсць і рубрыка „БД у СМІ". З гэтага трэба разумець, што з моманту ўзнікнення дадзенага сайта ніхто нічога не пісаў пра „Беларускі дом". Цяжка азначыць такі вынік шматгадовай дзейнасці фундацыі інакш за сумны.

Рубрыка „Падзеі", па ўсім відаць, таксама не цікавая ані Аляксандру Зарэмбюку, ані Пятру Сьлензаку. Тое, што там змешчана, немагчыма назваць расповедам пра нейкія падзеі. Падаецца, што ўладальнікі сайта папросту вырашылі запоўніць старонку бессэнсоўнай інфармацыяй, якая, насамрэч, толькі дыскрэдытуе арганізацыю.

Адзіная рубрыка, дзе месціцца хоць нешта, рэальна датычнае дзейнасці „Беларускага дому", — гэта „Галерэя". Там змешчаны фотаздымкі, якія распавядаюць пра тыя ці іншыя імпрэзы, якія праходзілі, відаць, пры нейкім узделе „Беларускага дому". Казаць больш канкрэтна не выпадае, бо здымкі хоць і згрупаваны па падзеях, але ніякіх тэкстаў да іх няма, тым больш няма і пазначэння асоб, якія ёсць на гэтых здымках.

Нейкая больш-менш цікавая інфармацыя, якую можна знайсці на сайце, месціцца з правага боку. Там знаходзяцца перадрукоўкі з беларускіх і польскіх СМІ, а таксама паведамленне пра курсы англійскай мовы. З галоўнай старонкі можна выйсці і на тэкст, які распавядае, як паехаць у Беларусь.

Гледзячы на сайт, бачыш, што, відаць, не надта добра ідуць справы ў „Беларускага дому". І нават размяшчэнне на ім у фармаце пдф нумароў „Нівы" не выратоўвае сітуацыю.

Аляксандр ЯКІМЮК

ДАТА З КАЛЕНДАРА



## 80 гадоў з дня нараджэння

# Івана Нікітчанкі

Беларускі навуковец і грамадска-палітычны дзеяч Іван Нікітчанка нарадзіўся 10 студзеня 1939 г. у вёсцы Гарыцы Пагарскага раёна Бранскай вобласці. З паходжання быў нашчадкам запарожскіх казакоў. Вядомы як актыўны ўдзельнік беларускай дэмакратычнай апазіцыі і навуковец у галіне селекцыі жывёл.

Іван Нікітчанка ў 1960 г. скончыў Віцебскі ветэрынарны інстытут. З 1968 г. працаваў навуковым супрацоўнікам, загадчыкам сектара, кіраўніком селекцыйнага цэнтра Беларускага навукова-даследчага інстытута жывёлагадоўлі. Доктар сельскагаспадарчых навук (1979), прафесар (1981). Лаўрэат дзяржаўнай прэміі СССР (1982), з 1986 г. — намеснік старшыні Дзяржаграпрама БССР, член-карэспандэнт Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. З 1991 г. — генеральны дырэктар НДІ „Агранавука". З 1993 г. — віцэ-прэзідэнт Нацыянальнага цэнтра стратэгічных даследаванняў. У 1985 г. абраны дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР.

Быў сябрам партыі БНФ. У першай палове 1990-х гг. уваходзіў у склад ценевага кабінета апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце XII склікання. Значны час узначальваў аргкамітэты правядзення шэсця дэмакратычнай супольнасці „Чарнобыльскі шлях". Актыўна крытыкаваў планы пабудовы ў Беларусі атамнай электрастанцыі. У адным інтэрв'ю 2007 г. Іван Нікітчанка сказаў: „Да ідэі будаўніцтва АЭС у Беларусі я стаўлюся вельмі адмоўна. Бо тыя 20 адсоткаў энергіі, што збіраюцца атрымаць праз яе будаўніцтва, можна атрымаць іншым шляхам. Найперш, праз мадэрнізацыю тэхналогій. У адным толькі аграрным сектары мы можам значна больш зэканоміць энергіі, чым дасць АЭС. І такая мадэрнізацыя вывела б нашу сельскую гаспадарку на патрэбны ровень і зрабіла б яе канкурэнтаздольнай".

Нікітчанка як навуковец даследаваў генетыка-матэматычныя метады аналізу селекцыйнай працы і аўтаматызаваных сістэм кіравання ў племяннай жывёлагадоўлі. Распрацаваў прагнозныя індэксы абмену рэчываў, метады прагназавання прадуктыўнасці і генетычнай схільнасці жывёл да захворванняў і стрэсаў. Напісаў больш за 280 навуковых прац, у тым ліку 6 манаграфій, зрабіў 5 вынаходніцтваў. Але ў найноўшую гісторыю Беларусі даследчык увайшоў, найперш, як адзін са стваральнікаў айчыннай постчарнобыльскай навукі і нязломны абаронца людзей, пацярпелых ад Чарнобыля. Праз 23 гады пасля Чарнобыля сцвярджаў, што сітуацыя з радыеактыўным забруджаннем у Беларусі горшая, чым у 1986 годзе, бо ўлады ўтойваюць рэальную карціну наступстваў катастрофы ў краіне. Выступаў за адмену дзеючых нарматываў утрымання радыенуклідаў у прадуктах харчавання і прызнанне таго, што радыяцыя небяспечная ў любой дозе. Лічыў, што грамадскасць павінна дабіцца стварэння сістэмы радыяцыйнай абароны насельніцтва. Прыйшоў да высновы, што для атрымання чыстых прадуктаў у межах кожнага сельгаспрадпрыемства неабходна мець чатыры малыя вытворчасці — па агратэхаблсугоўванні, выпечцы хлебабулачных вырабаў, перапрацоўцы плодаагароднінай і жывёлагадоўчай прадукцыі.

У час прэзідэнцкай выбарчай кампаніі 2019 г. Нікітчанка ўвайшоў у лік давераных асоб кандыдата ў прэзідэнты ад партыі Беларуская хрысціянская дэмакратыя Віталя Рымашэўскага. 19 лістапада 2010 г. Нікітчанка на сваёй машыне сутыкнуўся з грузавіком „ЗІЛ", які належаў рамонтна-будаўнічаму трэсту Упраўы справамі прэзідэнта Беларусі. Навукоўца даставілі ў шпіталь горада Маладзечна, дзе ён памёр у ноч на 20 лістапада. Пахаваны Іван Нікітчанка на Паўночных могілках Мінска.

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

свякруха была адразу такая кепская для яе, адразу паехала б з сям’ёй у сваю старонку. Не мусіла б так пакутаваць. А тут і муж перайшоў на бок свае маткі, і сказаў, што гэтыя багатыя парогі не для яе. Намовіў Аню, каб ехала дахаты. «Едзь дахаты, а калі заедзеш, напішаш ліст, дасі адрас, і я прыеду да цябе». Аня была такой наіўнай, што паверыла ў гэтую намову. Муж даў ёй грошы на дарогу, але нават не правёў на станцыю. Пайшла адна з вузялочкам. Я на яе месцы праз пару хвілін вярнулася б, сказала б, што мне кепска або нават напалохала яго нейкай установай. Якія б часы не былі б, але жанчыне ў такім стане памаглі б, а ім быў бы сорам. Але я іншая чым мая мама Аня — ведаўшы, што рацыя за мною, не паддаюся!.. Дайшла Аня на станцыю, заплаканая, выцягнула хустачку, вочы выціраючы, і з вузялка выпалі ёй тыя грошы на білет. Расплакалася ўголас. Як паедзе дадому, калі не мае грошай на білет? Падышоў да яе старэча, распытаўся, колькі грошай згубіла. Даў ёй грошы, столькі, колькі згубіла. Ці мо ён знайшоў згубленыя грошы, ці аддаў свае выпрашаныя? Сказаў: «Купі білет і едзь з Богам, а ён, за тое, што так паступіў, не будзе блаславлены Богам».

Аня вярнулася на бацькаўшчыну. Стала жыць у старэйшага брата. Нарадзіла сына, назвала яго Міхайла Сыч, Сцяпанавіч. Брацiха мела малое дзіця, і так на змену займаліся малымі — пільнавалі іх або ішлі ў поле. Калі дзецям было два гады, брацiха стала злавацца, што Аня ўсё жыве з імі, а нянька ўжо непатрэбная. На шчасце бацюшка пасля службы аб’явіў, што прыме няньку да дзяцей. Аня славілася як вельмі добрая кухарка, прыехаўшая з Расіі. Часта бралі яе рыхтаваць вясельныя гасціны, хаця па вайне ўсе жылі сціпла. Яна ўсё ж умела спраўна і смачна ўсё нарыхтаваць. Бацюшка прыняў Аню разам з дзіцём. Была на плябаніі як няня і гаспадыня пяць гадоў.

Да бацюшкі прыходзіў удавец, Ільля, з суседняй вёскі Рагачы (Аня была з вёскі Мікулічы). Ён даўжэйшы час быў у Маскве і вярнуўся з пятнаццацігадовай дачкой на радзіму. Быў вельмі дагледжаны, насіў капялюш і хадзіў з элегантнай палачкай, хоць не кульгаў — для прэзенцыі. Быў адукаваны, ведаў пару моў. Бацюшка запрапанаваў яму, каб ажаніўся з яго гаспадыняй: «Ты маеш дачку, Аня мае сына, падыходзіце да сябе. Я страчу добрую кухарку і няню, а для цябе будзе добрая жонка і дзецям маці». Так і сталася — пажаніліся яны ў 1928 годзе. І да 1941 года было нас васьмёра: татава дачка, мамін сын Міхайла, і супольных пяць сыноў, і я шостая — я нарадзілася ў 1939 годзе. Мая мама Аня не была шчаслівай з мужам. Ён яе не шанаваў, хаця шанавала яго дачку як сваё дзіця. Не цаніў таго, што Аня працавітая. У тыя часы ўсё трэба было выткаць на кроснах з ільну, якога апрацоўка таксама патрабавала шмат працы. Мой бацька папіваў. Яго дачка Вера не мела ніякіх удач, яе маці памерла на сухоты, дзяўчына таксама выглядала быццам сухотніца, але дажыла да 91 года. Мы яе вельмі кахалі. Мамін сын Міхайла выехаў у Германію, і не вярнуўся з-за айчыма. Але мая мама ў 1963 годзе наведала сына і была шчаслівай, што магла ўбачыць сваё дзіця перад смерцю.

Аня была вельмі веруючай, да 85 года жыцця кожную нядзелю хадзіла тры кіламетры ў царкву. Дажыла да 88 гадоў. Усё жыццё муж называў яе бежанкай. Адзінае, што была шчаслівая з-за таго, што мела здаровых дзяцей. Усе пажаніліся, ніхто не развёўся, нікога не спаткала турма. Двух старэйшых Аніных сыноў засталіся на гаспадарцы, трох набыло высокую адукацыю і жылі ў горадзе. Я па прафесіі краўчыха, і была шчаслівая з маім мужам-селянінам, пражыла з ім 42 гады. Дзевятнаццаты год я ўдава. Трох маіх братоў ужо не жыве, а трое нас засталося. Я дачакалася дзявяцера ўнукаў, дзясяцера праўнукаў. Жыву цяпер у Беластоку. Памагаю ўнукам. Дбаю аб помнікі і памяць тых, хто адышоў.

# Экуменічны вечар калядак



Напрыканцы 2018 года ў святліцы ў Старым Ляўкове Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета арганізавалі ўжо традыцыйны вечар калядак, у якім удзельнічалі бацькі і дзеці (сабралася больш за 70 чалавек). Яны прыйшлі і прыехалі са Старога Ляўкова, Новага Ляўкова, Лешукоў, Нараўкі, Падляўкова і Плянты.

У вечары прынялі ўдзел настаяцель Старaляўкоўскага прыхода айцец Леанід Янкоўскі, пробашч каталіцкай парафіі ў Нараўцы ксёндз Грыгорый Кулакоўскі, войт Нараўчанскай гміны Яраслаў Галубоўскі, дырэктарка Гміннага асяродка культуры ў Нараўцы Галена Рэент, старшыня Таварыства „Ятрышнік” з Лешукоў Альжбета Кунцэвіч, трох радных і трох солтысаў.

У куце стаяла і свяцілася рознымі колерамі прыгожая ёлка. На доўгім стале на белым абрусе гарэлі свечкі і стаялі ўсялякія стравы. Найперш была супольная малітва. З нагоды калядных святаў і Новага года святары і войт зычылі прысутным моцнага здароўя, шчасця і поспехаў у асабістым жыцці. Яны дзяліліся з усімі аплаткай.

Пачалася вілейная посная вячэра і спяванне прыгожых традыцыйных і новых беларускіх, рускіх і польскіх калядак. Вельмі дапамаглі ў іх спяванні мясцовы царкоўны хор ды стараляўкоўскі фальклорны калектыў „Цаглінкі”. На акардэоне іграў Мікалай Мяжэнны, мастацкі кіраўнік калектыву. Каляднае мерапрыемства 2018 года запісаў на відэакамеру Юрый Равінскі са Старога Ляўкова.

Тэкст і фота **Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**

## Адгаданка

**1.** згіб рукі, якога не ўкусіш, **2.** старадаўняя польская адзежына, у якой... туш, **3.** сапраўдны выпадак, у якім... акт, **4.** сялянка з сярпом, **5.** адзінка птушынай „адзежыны”, **6.** пляцоўка для катання на каньках, **7.** галоўнае свята на Грабарцы, **8.** выспа з Джакартай, **9.** жыхарка басейна Лены ў Сібіры, **10.** ежа з разбітых яек, **11.** лясны кабан, **12.** вузкая пратаптаная дарожка, **13.** юрыдычны саюз жанчыны і мужчыны, які суправаджаецца вяселлем, **14.** рытмічная хадзьба ў вайсковым страі, **15.** возера ў Валагодскай вобласці Расіі.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — народная пагаворка.

**(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.



**Адказ на адгаданку з 50 нумара**

Багрым, Ткачоў, каток, прас, лапата, прадмет, васілёк, пуд, Вальнь.

Рашэнне: **Добры пачатак — палова справы**.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Лявону Федаруку** з Рыбал.

## 13.01 — 19.01

**(21.03. — 19.04.)** Паправіцца атмасфера ў пары — ад 15.01. забудзеце аб крыўдах і схочаце правесці час у абдымках. Дома можа быць «армагедон» — набегаешся, наробішся, трэба будзе пільнаваць тэрмінаў. На працы старайся ўсяго дапільнаваць і прабіцца са сваімі задумамі. 12-14.01. хтосьці схоча падарваць твае кампетэнцыі. У адносінах да знаёмых выкажаш вялікую талерантнасць.

**(20.04. — 20.05.)** 13.01. магчымасць узнагароджання. 12-14.01. можаш паспяхова заняцца будучыняй сваёй і найбліжэйшых (страхоўка на жыццё, кватэру, інвестыцыя ў зямлю). Спачатку крыху руціны ў каханні, але з 15.01. чакаюць цябе гарачыя сустрэчы і ачараванні. Калі жывеш яшчэ з бацькамі, гэты час не найлепшы на адлучэнне.

**(21.05. — 20.06.)** Дзякуючы рэфлексу хутка зарыентуешся ў сітуацыі і гарантуеш сабе немалыя карысці. Засяродзішся на працы і абавязках, здабудзеш кантроль над сваімі эмоцыямі. Венера выцягне цябе да людзей і паможа заззяць табе як аздобе на кожным прыёме. Новыя абавязкі на працы — варта ўзяцца за выклікі, бо стаўка вельмі высокая — павышэнне нават на некалькі прыступак уверх або «зорны» кантракт. Народжаным у ІІ дэкадзе больш карысны будзе пераход у іншую фірму.

**(21.06. — 22.07.)** Магчымыя электрызуючыя весткі. 17-19.01. можа перад табою рассакрэціцца таямніца твайго партнёра. 15-19.01. можаш паспрачацца з блізкай асобай. Не абяцай сабе зашмат ад новых знаёмстваў. Але гуляй, спакушай, фліртуй — а што! З 18.01. будзеш нецікам, цяжкім для атачэння. Не еж у спешцы.

**(23.07. — 22.08.)** Увойдзеш у новае асяроддзе, зваліўшы ўсіх на калені. З 15.01. (да 22.01.) можа паявіцца кандыдат да твайго сэрца проста казачны. На працы радасна і працавіта, а шэф можа выслаць цябе на фронт, дзе выкажашся творчасцю. Але з 16.01. (да 20.01.) абыходзься з ім як з яйкам. Удасца табе ўсё, за што возьмешся, ды не шалей з выдаткамі.

**(23.08. — 22.09.)** 13-15.01. выдатны настрой, пераканаеш да сябе іншых. Але 12-14.01. адчуеш на сабе цяжар адказнасці. Не бойся рызыкнуць. Не закрывайся на намёкі і падказкі іншых. Дзень без чуласцей — страчаны. Дбай аб сябе ў неканвенцыйныя спосабы. Будзеш схільны да інфекцый верхніх дыхальных шляхоў. Накладвай цёплыя шкарпэткі. 12-14.01. могуць абвострыцца хранічныя захворванні, заранёў замоў візіт у лекара.

**(23.09. — 23.10.)** З 16.01. (да 22.01.) можаш закахацца з першага пагляду, і да 20.01. чакае цябе праверка з вернасці. 12-14.01. не шукай дзіры ў цэлым і не ствараЙ праблем. На рандэву выбірайся 16-21.01., чакаюць цябе незабыўныя перажыванні. З 18.01. (да 24.01.) экзамен з цярплівасці, спеласці і ўстойлівасці на стрэс; трэба будзе пасвяціць прыватнасць, каб ратаваць сітуацыю на працы.

**(24.10. — 21.11.)** 17-19.01. атрымаеш доступ да тайных інфармацый. З 18. 01.(да 24.01.) можаш узяць на сябе больш, чым дасі рады. Засяродзься на важных справах. 17-19.01. будзеш прымушаны да пошукаў новых дарог развою і самарэалізацыі, а адначасна запрэзентуешся з як найлепшага боку.

**(22.11. — 21.12.)** Глядзі, каб не асляпіла цябе прага ўлады (да 18.01.). 12-14.01. не адмоўся ад добрых задум! Не спачні на лаўрах на працы, будзь асабліва чуйны, бо пабітая канкурэнцыя шукае нагоды, каб адыграцца. Да ўсяго прыкладвайся на 100 працэнтаў, каб да 18.01. не лопнуў шар поўны абяцанняў. Будзь вельмі ашчадны, каб не трапіць на край фінансавай прорвы.

**(22.12. — 19.01.)** Да падарожжаў і абучэнняў намаўляе цябе Меркурый 17-19.01. Будзеш шчодры і даверлівы, але, на шчасце, не падвядзе цябе інтуіцыя — слухай яе голасу, асабліва 13-15.01., дык не зробіш жыццёвай памылкі. На гарызонце відаць прэмію, але дарога да яе яшчэ далёкая. Не забывайся аб візіце ў дантыста.

**(20.01. — 18.02.)** Хаця зоркі абмяжоўваюць твае дзеянні, маеш многа сілы. Вылучышся на фоне атачэння. 16-21.01. перакананне, што табе нічога кепскага не прытрапіцца, 16-20.01. можа быць ілюзорным. 16-21.01. разбушуецца агонь у любоўным агмені. Квадратура Сонца з Уранам 16-20.01. моцна падзейнічае на Вадалеяў у ІІІ дэкады: шэф не дае павышэння, калегі прысабечваюць твае заслугі? Скажаш «не!» і або выйдзеш, трэснуўшы дзвярыма, або застанешся на сваіх умовах. З 18.01. (да 24.01.) не фарсіруй кален і суставаў; магчымыя кантузіі.

**Рыбы (19.02. — 20.03.)** 13-15.01. нейкая няўдача абернецца ў тваю карысць. Хаця твая ахвяра можа пайсці ўпустую да 18.01. Добрыя вынікі на працы. Выгады і карысці. У бізнесе 13-15.01. зоркі падсунуць добрую назву фірме, задумы на файную рэкламу, і зможаш падпісаць карысныя дамовы на вялікі праект. Новыя прафесійныя шанцы. Але не пераборшчвай з фізічным высілкам, дбай асабліва аб канечнасці.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**

BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945

**Nakład:** 1 300 egz.



■ Дэльфійскі Толас

# Дэльфы:
## пуп і вантробы свету!

З кожнай прыступкай, з кожнай чарговай тэрасай мянялася перспектыва і свет ахінаў касмічны парадак. Слова — гармонія — станавілася целам.

Як слова Дэльфы — па-грэчаску «вантробы». Фізіялогія і цела тут не замінала, хутчэй прамаўляла як ідэальная мадэль. Ці не ад кшталту і колеру скал Парнаса пайшоў той назоў — Дэльфы — Вантробы (свету)? З пэўнай перспектывы горы здаюцца чырвона-фіялетавымі і жывымі. Гэта ад пары, якую аддаюць навостраныя, сагрэтыя вяршыні.

У хвіліны рэзкай перамены надвор'я, што мне пашанцавала назіраць, горы Парнаса «дыхаюць» на поўныя грудзі. Яны апранаюцца ў аблокі і спалучаюцца з небам. І нельга ўжо аддзяліць пачатак аднаго і канец другога. Знікаюць абрысы, усё плыве, пульсуе, дыхае, як перад стварэннем новага свету...

Старажытны горад Дэльфы расславілі жрацы-піфіі, якія з дапамогай таксічных газаў уваходзілі ў транс і прадказвалі будучыню. Іх слава распасціралася на цэлы старажытны свет. Узнесены на скальных плато горад пераліваўся бела-чырвона-чорнымі адценнямі мармуровых свяцілішч, ззяў золатам і багаццем, аж кружылася ў галаве паломнікам і прайдзісветам.

Верагодна, усё выглядала яшчэ больш імпазантна, як пазначана ў крыніцах. Прыгожасць і феномен месца не даюцца злавіць у канструкцыі, словы, гукі. Усе фатаграфіі і карціны з гэтага месца не раўнуюцца з жывой панарамай і перспектывай. Магчыма, так дзейнічае магія месца.

Дэльфы кожны бачыць інакш, па-свойму.

* * *

Я ніколі не думала, што падарожжа па свеце руін можа быць такім эмацыйным і жывым досведам. Дабіралася я туды з Афінаў на аўтобусе ў сямейна-дзявочай кампаніі. Дарога цягнулася дзве з паловай гадзіны, частка маршруту вяла праз горы Алімпа. Як гэта бывае з метафізічнымі цэнтрамі, хай і аджылымі свой залаты век, задзейнічалі перашкоды. Даведнікі раілі праверыць маршруты і заранёў набыць квіток. Падказвалі, што афіцыйная распіска не заўсёды сыходзілася з рэальнымі маршрутамі. І праўда, калі мы знайшлі пазначаны ў даведніках вакзал, аказалася, што той



аўтобус адпраўляюць з іншага вакзала, на другім канцы сталіцы. Раніцай, як абухам у лоб, ударыла яшчэ адна дзікая навіна. Забаставаў увесь публічны транспарт. Ну, рукі звычайна апусціліся. Трэба было лавіць таксі і чым хутчэй дабірацца на аўтавакзал. А так квіткі, якія каштавалі больш чым палёт у Грэцыю, прапалі б. Увесь гэты дзікі спех і нервы здзейсніліся пад покрывам ночы. Раніца нарадзілася ў дарозе ўжо за бясконцым прыгарадам Афін...

Старажытныя Дэльфы з перспектывы дарогі на першы погляд напамінаюць могільнік. Так прамаўляюць калоны, якія паасобна ці то ў комплексах тырчаць на скальных плато Парнаса.

Сучасная вёска знаходзіцца ўнізе. Яна быццам даклеена да сваёй гісторыі. Сапраўды, усё тут залежыць ад старажытнага пачатку і міфаў. Кожная камяніца працуе тут як гатэль, рэстаран, бар, сувенірная крама...

Наўздзіў, тут не адчувалася паслясезоннай дэпрэсіі. Уласнікі хутчэй за ўсё адпачывалі ад бясконцых натоўпаў. Затое пакутавалі бяздомныя каты і сабакі, якія падбягалі да турыстаў-недабіткаў і жабравалі яду.

* * *

Фізіялагічныя назовы, тыя ванторбы, кішкі, пупкі, для старажытных народаў значылі больш, чым значылі. Яны служылі яшчэ ў якасці магічных прылад. Па іх выглядзе жрацы і варажбіты гадалі і прадказвалі будучае.

Славу Дэльфаў стварылі пакаленні манашак-піфій, якія натхняліся таксічнымі газамі са скальных шчылін і расколін ды прарочылі будучыню. Займелі бяспрэчных аўтарытэт, іх лічылі беспамылковымі. Параіцца цягнулі сюды не толькі жыхары старажытнай Элады, але і ўвесь старажытны свет. Перад кожным ваенным паходам старажытныя грэкі найперш падаваліся па раду да піфіі. Яе адказы заўсёды былі загадкай, ніколі не падавалі адназначнай інтэрпрэтацыі. Асобы, што прыбывалі ў Дэльфы, спачатку запісвалі або гаварылі свае запыты жрацам. Тыя ў сваю чаргу перадавалі іх піфіям, якія ў наркатычным трансе балбаталі або



■ Піфія прарочыць будучыню

выкрыквалі незразумелыя словы. Задачай жрацоў было іх запісаць вершам гексаметрам і даручыць іх паломніку. Адказы заўсёды былі двухсэнсоўнымі, кожны разумеў іх па-свойму. Пасля, калі варажбы разыходзіліся са здарэннямі, віна ляжала на баку зямных смяротнікаў. Гэта яны дрэнна зразумелі значэнне атрыманай запіскі.

Найбольш вядомы ў гісторыі выпадак Крэза, караля Лідзіі. Цар падаўся ў Дэльфы, каб даведацца ці пераможа ў вайне з Персіяй. Прадказальніца сказала яму: «Калі Крэз пяройдзе раку Галіс (якая раздзяляла два каралеўствы), ён спрычыніцца да падзення вялікай краіны». Кароль, вядома, хацеў убачыць падзенне Персіі, але абставіны прывялі да адваротнага.

Аднак народ далей верыў піфіі. Яна не памылілася. Памыліўся Крэз, які дрэнна адчытаў яе пераказ!

Хоць сучасны наведвальнік зусім не ўспрымае Дэльфаў як рэлігійны цэнтр, усё дамагаецца варажбы і празорлівых адказаў...

(працяг будзе)

**Фота і тэкст**
**Ганны КАНДРАЦЮК**

ISSN 0546-1960 02